PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 15 (2135) Год XLII Беласток 13 красавіка 1997 г. Цана 1 зл.



Фота Віктара ВОЛКАВА

# Гайнаўка ці Бельск?

Гайнаўка і Бельск-Падляшскі — самыя вялікія, за выключэннем Беластока, гарады на Беласточчыне. Яны — тыповыя пагранічныя гарады са значнай колькасцю няпольскага насельніцтва. Апошнім часам ад гайнавян можна пачуць сцвярджэнне, што Бельск становіцца сапраўдным горадам, калі Гайнаўка штораз глыбей апускаецца ў правінцыйнасць. Бяльшчане ў сваю чаргу падкрэсліваюць, што ў Гайнаўцы лепш рабіць пакупкі, бо цэны тут ніжэйшыя. Напэўна ў грамадстве абодвух гарадоў ёсць і іншыя меркаванні. Давайце тады глянем на праблемы гэтых гарадоў цераз прызму статыстыкі.

Бельск раскінуўся на 27 кв. км, а Гайнаўка — на 21 кв. км. У 1995 годзе Бельск налічваў 27 445 жыхароў, Гайнаўка — 24 220, а шчыльнасць насельніцтва складала адпаведна 1 016 і 1 153 асобы на 1 кв. км. Бельскія мужчыны апынуліся ў лепшай сітуацыі чым гайнаўскія, бо на 100 бяльшчан выпадала 108 прадстаўніц прыгожага полу, калі іхным суседзям толькі 107 жанчын (паказчык для ваяводства і краіны — 105). Натуральны рост буйнейшы ў Бельску — 3,8%, чым у Гайнаўцы — 1,6%.

Сальда міграцыі ў Бельску было дадатнае (332 асобы прыбылі, 322 выбылі = + 10 чалавек), калі ў Гайнаўцы аказалася яно самым некарысным ва ўсім ваяводстве (прыбыло 167, выбыла 300 = - 133 чалавекі).

Па-рознаму выглядае справа працаўладкавання насельніцтва абодвух гарадоў. У Бельску па-за індывідуальнай сельскай гаспадаркай працавала 7 145 чалавек, якія былі заняты ў прамысловасці (22,4%), будаўніцтве (15,4%), гандлі і паслугах (15,2%), ахове здароўя і сацыяльнай апецы (12,4%), адукацыі (10,5%), транспарце і сувязі (7,2%), адміністрацыі і нацыянальнай абароне (6,7%) і ў іншых галінах (10,2%).

У Гайнаўцы пераважала працаўладкаванне ў прамысловасці (44,5%), за якой апынуліся ахова здароўя (14,4%), гандаль і паслугі (9,4%), адукацыя (8,2%), транспарт і сувязь (6,4%), адміністрацыя і нацыянальная абарона (4,8%), будаўніцтва (3,1%) і іншыя галіны (9,2%).

З прыведзеных даных вынікае, што Гайнаўка — гэта прамысловы горад, што ў выпадку ліквідацыі прамысловых прадпрыемстваў пагражае вялікім беспрацоўем. Цяпер у Бельску зарэгістравана 2 107 беспрацоўных, а ў Гайнаўцы — 1 641.

Жыллёвая гаспадарка ў абодвух гарадах мае свае адрозненні. У Бельску налічваецца 8 516 кватэр, а ў Гайнаўцы — 7 857, але колькасць здадзеных кватэр у 1995 годзе значна розніцца — адпаведна: 125 і... 16. Аднак у Гайнаўцы больш камунальных кватэр (1 192), чым у суседзяў (864).

У навучальным годзе 1995/96 ва ўсіх бельскіх школах вучыліся 8 202 вучні, а ў Гайнаўцы — 6 017. У Бельску было таксама больш першакласнікаў — 531, чым у Гайнаўцы — 396.

У галіне культуры лепшымі паказчыкамі можа пахваліцца Бельск, які мае публічную бібліятэку з філіялам, кінатэатр і дзве культурныя ўстановы (у Гайнаўцы — адна, няма таксама кінатэатра). Мастацкіх калектываў у Гайнаўцы зарэгістравана аж 20 (у Бельску толькі 15), але ў большасці гэта дзіцячыя гурты.

У Бельску больш аператыўныя турыстычныя арганізацыі: 4 гасцініцы і інтэрнаты са 160 начлежнымі месцамі за дзевяць месяцаў 1995 года далі 4 192 начлегі. У Гайнаўцы за гэты час 3 аб'екты са 195 месцамі далі толькі 1991 начлег.

У абодвух гарадах падобная гандлёвая сетка: у Бельску працуе 66 магазінаў, а ў Гайнаўцы — 62, затое ў першым горадзе ўдвая больш, бо аж 8, бензазаправачных станцый. Не пішу пра тэлефонную сувязь, бо пасля мінулагодняй мадэрнізацыі бельскай аўтаматычнай тэлефоннай станцыі лік абанентаў у гэтым горадзе маланкава павялічыўся. Гайнаўская АТС будзе мадэрнізавацца сёлета і тады, пасля дзесяцігадовага чакання, мабыць, і мне паставяць тэлефон.

**Славамір Кулік**

# *Пра кліента і пана*

*Мікола Ваўранюк*

*Прыемна чытаць такія артыкулы, як „Кліент — наш пан" Уладзіміра Сідарука („Ніва" № 13). Прыемна і крыху зайздрасна, што ў Чаромсе ёсць такія добрыя крамы.*

*Гэта праўда, што гандаль у нас з часоў сацыялізму моцна змяніўся. У крамах поўна тавару, падлогі падмеценыя, за чыстымі шыбамі густоўныя рэкламныя выстаўкі. Канада!*

*На жаль, не магу пагадзіцца са спадаром Сідаруком наконт культуры абслугоўвання і, проста, звычайнай ветлівасці персаналу. Не здараецца цяпер нагул, каб прадавец ваўком кідаўся на кліента. Але ж мы і на тратуарах не кідаемся адзін на аднаго з кулакамі. І за гэта ніхто нікому не дзякуе. Таму я не бачу патрэбы дзякаваць прадаўцу за яго нейтральнасць за прылаўкам. Ад гэтага да сапраўднага купецкага майстэрства яшчэ далёка.*

*Першы раз з сапраўднымі купцамі спаткаўся я ў Рыме, на невялічкай жыдоўскай вуліцы каля Кампо дзі Фіоры (на якім быў спалены Джардана Бруна). Уражанне было тым большае, што ў Польшчы яшчэ дажываў шэры, крызісны сацыялізм. Хапіла прыпыніцца перад вітрынай, каб уласнік крамы з парога пачынаў незмушоную гутарку. Сэнс можна было зразумець нават з небагатым запасам італьянскіх слоў. Але, калі пры каторайсьці лаўцы засцярогся я няведаннем італьянскай мовы, прадаўшчыца адкульсьці прывяла дачку, якая пералічыла ўсе якасці іхняга тавару па-англійску. Уся сям'я стаяла напагатове, каб толькі дагадзіць пакупніку. З такой крамы сорамна было выходзіць, нічога там не купіўшы. А яны ўсё роўна дзякавалі, проста за самое наведанне. „Запрашаем яшчэ, можа другі раз нешта вам падыдзе".*

*А як я сябе няёмка адчуваў, калі перада мною, тады 22-гадовым, стаў на калені прыблізна 70-гадовы дзядуля, каб прымерыць мне чаравікі. Дарэчы, прахадзіў я ў іх восем зімаў і, праўдападобна, яшчэ некалькі пахаджу. Гэта мяне канчаткова пераканала, што мастацтва гандлю, дбайлівасць пра кліентаў і якасць тавараў перадаваецца з пакалення на пакаленне. Можна вышукваць не проста краму, а салон, можна прывезці са свету ўсё найлепшае, ды так і не навучыцца як след абыходзіцца ні з таварам, ні з людзьмі.*

*Вось менавіта, у нашых свежа спечаных купцоў няма накаплення дасведчанасці. Бацькі і дзяды не перадавалі ім у спадчыну ні маёмасці, ні запаветаў, як яе памнажаць. І гэта, на жаль, адчуваецца.*

*Калі ўваходзіш у краму, даеш ад дзвя-*

[працяг ☞ 8]

# Мы прачыталі

*Przed sądami w Mińsku stają kolejni polityczni przeciwnicy prezydenta Łukaszenki. Na ulicach miasta trwa nieustanne polowanie na uczestników antyprezydenckich wystąpień. Przed sądem został postawiony także były przewodniczący białoruskiego parlamentu Mieczysław Hryb. Sąd skazał go na grzywnę 20 mln rubli, tj. 830 dolarów, za udział w nielegalnej manifestacji. Był to proces człowieka, który podpisywał konstytucję Białorusi podeptaną przez Łukaszenkę. Hryba chronił immunitet poselski, ale to żaden problem dla prezydenta. Prokurator generalny Oleg Bożełko na życzenie Łukaszenki cofnął immunitet byłemu przewodniczącemu Rady Najwyższej. W przypadku niewykonania polecenia zapewne Bożełko straciłby posadę. Za działalność opozycyjną zostali skazani także były minister spraw wewnętrznych generał Jurij Zacharenko, deputowani Paweł Znawiec i Władimir Borodacz.*

*Gazeta Wyborcza, nr 68*

* * *

*Parę milionów właścicieli świadectw udziałowych, które warte są raptem 160 zł może doznać szoku na wiadomość, że w cementowni Nowa Huta pracownicy zainkasowali średnio po 30 do 50 tysięcy złotych (pół miliarda starych) w zamian za oddane nowym właścicielom akcje pracownicze, które wcześniej dostali za darmo. Podobnych zysków spodziewają się pracownicy Stomilu Olsztyn i Polifarbu Wrocław. Darmowe akcje dla załóg przedsiębiorstw nie mają nic wspólnego ze sprawiedliwością. Przedsiębiorstwa te były budowane z podatków całego społeczeństwa.*

*Polityka, nr 12*

* * *

*Maciej Dąbrowski, perkusista grupy Graveland z Wrocławia stwierdza: czuję się w połowie Słowianinem, a w połowie niemieckim neonazistą. Słowianie nigdy nie stworzyli silnej kultury, zawsze byli sługami bohaterskich plemion germańskich. Myślę, że plemiona słowiańskie powinny być zniewolone i stworzyć federację Wschodniej Rzeszy. Nazizm popieram całym sercem. Jest to jedyny system rządów zgodny z prawami natury. Nazizm daje błogosławieństwo sile i odsuwa na margines społeczny wszelką słabość i kalectwo duchowe. Imperium wybudujemy na terenie użyźnionym krwią. Wokalista grupy Veles: miłość i dobro to obrzydliwość. To wszystko wymyślają brudne żydowskie świnie. Nie powinno być dla nich litości. Totalna wojna. Lider poznańskiej grupy Perunvit twierdzi: Jak powinna wyglądać Europa? Bez Żydów, Murzynów, nierobów, boga Jahwe i innego robactwa.*

*Nigdy więcej, nr 3*

Аказваецца, што для часткі польскай моладзі Гітлер ужо стаў героем, узорам чалавека. Не мінула дзесяць гадоў ад распаду камунізму, а вярнуліся ўсе хваробы таталітарных сістэмаў. Кожны люмпен-пралетарый марыць аб тым, каб біць згодна з законам.

* * *

*Publicysta organu narodowców „Myśl Polska" Mariusz Becht uważa, że powinna powstać Narodowa Scena Rockowa. Przyczółkiem prawicy w muzyce w pierwszej kolejności powinna być subkultura skinheads. Skinheadzi są jednak niedoinwestowani i potrzebna im pomoc w propagowaniu tego narodowego nurtu. Ich zasługą jest unikatowe w skali europejskiej zjawisko polskiego skinheada-katolika-tradycjonalisty.*

*Gazeta Wyborcza, nr 70*

Czy Chrystus umarł na Krzyżu za skinheada-katolika-tradycjonalistę? — пытае на заканчэнне газета.

* * *

*Женщин любят не только Александр Лукашенко и премьер Сергей Линг но и Семён Шарецкий,* — заяўляе

*Народная воля, н-р 44*

* * *

*Прэзідэнт Лукашэнка і яго атачэнне сцвярджаюць, што святкаванне Дня Незалежнасці 25 сакавіка было навязана нашаму народу „супернацыяналістамі-рэваншыстамі" і „звязана з фашызмам".*

*Беларускі дайджэст, н-р 3*

* * *

*Liza Fitz przed widownią największej w Europie sieci telewizyjnej RTL dokonała analizy pewnego zdania, z góry stwierdzając, że zawiera ono trzy kłamstwa. Zdanie to brzmi jak ogłoszenie: „Uczciwy Polak z własnym samochodem poszukuje pracy".*

*Polityka, nr 11*

* * *

*Дэкрэт аб стабілізацыі і далейшым павышэнні дабрабыту рабочых, калгаснікаў і жэншчын: „Усім дзяржаўным служачым штодня прадстаўляць справаздачу аб прагледжаных тэле- і радыёперадачах. Увесці ва ўсіх прадпрыемствах, установах і арганізацыях, незалежна ад формы ўласнасці, «гадзіну Праўдыра» і «хвіліну старэйшага брата». Пры ўсіх культавых установах арганізаваць нядзельныя школы па вывучэнні праваслаўнага атэізму. Заснаваць нагрудны знак «Малады АМАНавец», які ўручаць вызначыўшымся ў справе перапынення асабліва небяспечнай злачыннай дзейнасці студэнтаў, бэнээфаўцаў, габрэяў і наймітаў міжгародскага губернатара. Абвясціць рэспубліканскі конкурс на лепшы спосаб знішчэння ўнутраных і знешніх ворагаў з прысваеннем звання «палкоўнік бяспекі». Арганізаваць манументальную, наглядную, музычную кінапрапаганду рынкавага сацыялізму і стабілізацыі.*

*Пагоня, н-р 10*

# З мінулага тыдня

**Расейская міліцыя** не дапусціла да дэманстрацыі журналістаў перад **пасольствам Рэспублікі Беларусь у Маскве**, якія хацелі выказаць пратэст супраць выдварэння з Беларусі **Аляксандра Ступнікава** — карэспандэнта незалежнага расейкага тэлеканала НТВ. Прадстаўнікі маскоўскай міліцыі растлумачылі гэтую забарону адсутнасцю дазволу гарадскіх улад на правядзенне пратэстацыйнай акцыі. Двое журналістаў былі затрыманы на некалькі гадзін. Падчас маніфестацыі планавалася прыняць рэзалюцыю ў справе асуджэння беларускіх улад за парушэнне грамадзянскіх правоў і свабоды слова.

**Прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі** ў інтэрв'ю для нямецкага штотыднёвіка „Der Spiegel" сказаў, што неабходна вырашыць пытанне войска ў Калінінградскай вобласці. „Гэта не толькі праблема бяспекі Польшчы, але таксама і НАТО", — сказаў прэзідэнт РП. На яго думку, Захад павінен пачаць з Расеяй перамовы на гэтую тэму. Прэзідэнт А. Кваснеўскі не бачыць перашкод, каб войскі НАТО знаходзіліся на тэрыторыі Польшчы, хаця кшталт ваенный інфраструктуры новых членаў НАТО яшчэ канчаткова не вырашаны.

„Не пракаменцірую гэтага выказвання, гэта несапраўдныя інфармацыі", — сказаў прэзідэнт **Аляксандр Кваснеўскі**, калі журналісты папрасілі яго аднесціся да заявы прэзідэнта Беларусі **Аляксандра Лукашэнкі**, які абвінаваціў Польшчу ў тым, што з яе тэрыторыі вядуцца антыбеларускія дзеянні. Прэзідэнт РП сцвердзіў, што ацэнку гэтай сітуацыі дасць Міністэрства замежных спраў і дадаў, што Польшча не зацікаўлена ў накальванні атмасферы ў польска-беларускіх адносінах.

**Дарыюш Расаці** — міністр замежных спраў заявіў, што няма ніякіх асноў для таго, каб лічыць, што Польшча ў які-небудзь спосаб прымае ўдзел у дзеяннях супраць Беларусі. „Калі прэзідэнт Лукашэнка падразумявае дзейнасць беларускіх эмігрантаў і апазіцыянераў, тады прыпамінаю, што Польшча — гэта свабодная краіна; у нас дазваляецца голасна выяўляць свае думкі і калі ўсё ідзе згодна з законамі, не бачу прычын для ўмяшання", — сказаў шэф польскай дыпламатыі.

**Урад ЗША** паведаміў, што ў сувязі з выдварэннем з тэрыторыі Беларусі амерыканскага дыпламата **Сержа Аляксандрава**, амерыканская адміністрацыя пакуль што не жадае, каб у Вашынгтон прыязджаў новы пасол Беларусі і папрасіла **Валерыя Цапкалу** застацца на радзіме. Амерыканскі бок у сваю чаргу прызнаў персанай нон грата першага сакратара пасольства Беларусі **Уладзіміра Грамыку**.

**Гаспадарчая місія Беластоцкага ваяводства** наведала правінцыю Умбрыя ў Італіі. У ходзе Дзён Падляшша прадстаўнікі васьмі прадпрыемстваў, улад ваяводства і Гайнаўкі, а таксама іншых арганізацый прапагандавалі гандлёвыя і турыстычныя якасці Беластоцкага ваяводства і яго культурныя дасягненні. Паралельна ў італьянскім друку з'явіліся артыкулы пра Беласточчыну пяра італьянскіх журналістаў, якія ў сакавіку наведалі наш рэгіён. Супрацоўніцтва Беласточчыны з Умбрыяй завязалася два гады таму. У мінулым годзе гаспадарчая місія італьянскай правінцыі Умбрыя гасцявала ў Беластоку.

**У Гайнаўскім доме культуры** адкрылася выстаўка фатаграфічных прац **Уладзіслава Завадскага** пад загалоўкам „Рыбіным вокам". Аўтар з'яўляецца членам Клуба аматараў фатаграфіі ГДК, а яго здымкі друкаваліся між іншым на старонках нашага тыднёвіка.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Ці Беласток можа быць цэнтрам беларускай культуры — задумоўваецца Славамір Кулік.
- Беластоцкі лагер „Даліна смерці" — успаміны зняволенага Івана Антонава.
- Як малявалі велікодныя яйкі — піша Міхал Мінцэвіч.

# Весткі з Беларусі

**Прэзідэнцкія абвінавачанні**

У Мінску прайшла рэспубліканская селектарная нарада па пытаннях падрыхтоўкі да веснавых палявых работ, на якой прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў, што з польскай тэрыторыі вядуцца спробы справакаваць польскую нацыянальную меншасць у Беларусі да процібеларускіх дзеянняў. Некалькі дзён пазней на прэс-канферэнцыі ў Маскве прэзідэнт А. Лукашэнка абвінаваціў заходнія дзяржавы і большасць расейскіх ліберальных сродкаў масавай інфармацыі ў інфармацыйнай і прапагандыстскай агрэсіі супраць Беларусі. Падкрэсліў ён, што ў гэтай вайне ўдзельнічае таксама Польшча, а ўсе гэтыя дзеянні праводзяцца з мэтай перашкодзіць інтэграцыі з Расеяй. „У выпадку змянення ўсходняга вектара беларускай палітыкі, прапагандысцкая агрэсія, на якую выдзелены вялікія грошы, спыніцца праз месяц", — сказаў прэзідэнт РБ.

**Дадатковыя меры**

Прэзідэнт Беларусі падпісаў распараджэнне аб дадатковых мерах па забеспячэнні сельскагаспадарчых прадпрыемстваў нафтапрадуктамі. Будуць ім часткова кампенсаваны затраты, звязаныя з набыццём нафтапрадуктаў для правядзення веснавых палявых работ. Кампенсацыі складуць суму 11 млн. дол. ЗША.

**Татарскі юбілей**

Сёлета спаўняецца 600 гадоў як на беларускіх землях пасяліліся татары. Прыйшлі яны сюды як воіны, а з цягам часу ператварыліся ў рамеснікаў, гандляроў, работнікаў культуры. Іх уклад у асноўныя сферы жыцця краіны — бясспрэчны і прызнаны. Вялікую ролю ў гэтым адыгрывае Культурна-асветніцкае таварыства беларускіх татараў „Алькітаб", якое правяло канферэнцыю па праблемах захавання культурнай спадчыны татар на Беларусі.

**Супрацоўніцтва сувязістаў**

Пад канец сакавіка на дзяржаўнай мяжы ў Брэсце разам працавалі беларускія і польскія сувязісты. Яны ажыццявілі стыкоўку дзвюх сучасных ліній тэлекамунікацыі. Падзея гэтая азначае ўключэнне тэлекамунікацыі Рэспублікі Беларусь у сістэму сусветнай глабальнай сувязі. Такім чынам Брэст — буйное перакрыжаванне міжнародных транспартных шляхоў — стаў і важным тэлекамунікацыйным перакрыжаваннем.

**„Фіат" у Маладзечне**

Плануецца, што хутка Маладзечанскае прадпрыемства „Электрамодуль" наведае група польскіх і італьянскіх спецыялістаў, якія правядуць экспертызу на адпаведнасць выпускаемай заводам прадукцыі неабходным стандартам. Летась „Электрамодуль" заключыў рамачны кантракт на пастаўку паўправадніковых дыёдаў польскім заводам у Мыславе і Свідніцы, а яны ў сваю чаргу з'яўляюцца пастаўшчыкамі сумеснага італьянска-польскага прадпрыемства па выпуску аўтамабіляў „Фіат". Італьянцы і палякі зацікаўлены, каб камплектуючыя адпавядалі неабходным патрабаванням.

**Оскар не атрымаўся**

Вылучаная на атрыманне прэміі Оскар карціна беларускага рэжысёра Дзмітрыя Астрахана „З пекла ў пекла", якая выклікала пратэсты польскіх ветэранскіх колаў, не прайшла папярэдняга адбору і засталася за бортам афіцыйнай кінаспрэчкі. І ўсё ж з'яўленне фільма ў студзені ў ЗША не засталося не заўважаным. Прагледзеўшы стужку прадзюсер фільма „Спіс Шындлера" Бранка Ластэх і рэжысёр Стывен Спілберг былі настолькі ўзрушаны, што зрабілі некалькі прыватных праглядаў карціны для невялікіх аўдыторый, у тым ліку для былых вязняў канцлагераў у Яўрэйскім цэнтры Сімона Візенталя ў Лос-Анжэлесе.

**Карупцыя ў Салігорску**

У Салігорску не сціхаюць скандалы, звязаныя з проціпраўнымі дзеяннямі высокіх службовых асоб. На гэты раз арыштавана былая дырэктар Гарадскога дома сямейных урачыстасцей Галіна Каракa. Яна падазраецца ў крадзяжы матэрыяльных каштоўнасцей. Раней у следчы ізалятар былі заключаны мэр горада Мікалай Юрчык, загадчыца аддзела прыватызацыі Гарвыканкама Людміла Шульга і намеснік дырэктара Гарадскога рынку Аляксандр Гальчук. Усяго заведзена 10 крымінальных спраў аб падазрэнні ў карупцыі.

# Аб чым гавораць у ГСе

**У 1950-х гадах ва ўсёй краіне ўзніклі ГСы (Gminne Spółdzielnie „Samopomoc Chłopska"), якіх асноўнай задачай было арганізаванне гандлёвай і паслуговай сеткі ў вёсках і мястэчках. Але слабой якасці былі гэтыя кааператывы, калі пасля 1989 года большасць ГСаў распалася, а тыя, якія яшчэ датрымаліся, відаць, не вытрымаюць канкурэнцыі з прыватным гандлем. ГСы былі інкубатарам правінцыйных элітаў, члены якіх ласкавай рукой дзялілі супольнае дабро. ГСаўская вярхушка, не пазбаўленая сялянскіх звычак, нярэдка трактавала свае пасады як прыватныя гаспадаркі, злоўжывала службовым становішчам.**

Як працаваў арлянскі ГС калісьці і цяпер ведаюць тыя, што былі ягонымі кліентамі. Памятаю як у апошні чацвер лютага наведаў я ГСаўскі пункт скупкі. Было пуста. Сяляне прадалі ўсяго дзве каровы і трое свіней. Цана ялавічыны зноў упала.

— Сёння гаспадару ўсё таннее, — кажа адзін з сялян, — а ў магазіне цэны безупынна растуць. На адзін гектар толькі самых угнаенняў трэба купіць на 200 зл., не лічачы іншых хімікатаў і сваёй працы. Калі станеш лічыць даход, то сабе астаецца толькі салома і гной у хляве.

У ГСаўскім складзе ляжыць трохі неабходных мінеральных угнаенняў. Няма да іх чэргаў, як калісьці бывала. Часам нехта загляне сюды, запытае пра цану і адыдзе.

— У людзей папросту няма грошай, — гаворыць іншы земляроб. — Каб купіць мінеральныя ўгнаенні, прыходзіцца браць у банку крэдыт. Ствараецца своеасаблівае зачараванае кола: пазыка, угнаенні, праца, пазыка...

— Калі прыйшла пара жаніцца, — успамінае селянін-пенсіянер, — то бацька абяцаў мне ў пасаг гектар зямлі, а я стаў разглядацца за дзяўчынай, якая б мела таксама са два гектары, каб „трохі разжыцца". І так памаленьку за ўсё жыццё назбіралася 13 га, якія прыйшлося аддаць дзяржаве за пенсію. Цяпер зямлі многа, аблогам ляжыць. Людзі аддаюць зямлю амаль дарма.

Да гэтай гутаркі уключаюцца іншыя сяляне.

— Цяпер у большасці вёсак амаль адны пенсіянеры. Дзяцей мала, так што не будзе каму перадаваць гаспадарак. Сяляне галоўным чынам трымаюць па некалькі кароў і прадаюць малако, бо гэта дае рэгулярны грашовы прыбытак. І хаця прадаўцоў многа, то малака на пунктах скупкі мала. Пагаворваюць, што будуць закрываць пункты скупкі па вёсках, а малочны завод будзе забіраць толькі астуджанае малако ў гаспадароў. Але халадзільнае абсталяванне не ўсім па кішэні; у гміне маюць яго толькі трое сялян.

— Летась ГС сам ліквідаваў бойню і каўбасны завод. Цяпер, калі жывёла зломіць нагу, гаспадар не ведае, што яму рабіць. У Бельску бойня не хоча гэтым займацца, у Беласток задалёка. Калі жывёла застрахаваная, то ПЗУ выплаціць частковую кампенсацыю, калі не — жывая страта.

— На скупцы пуста, бо калі селянін хоча прадаць кароўку, то прыватныя прадпрымальнікі прыедуць у вёску і забяруць проста з хлява. ГС селяніну ўжо непатрэбны. У нашай вёсцы некалькі гадоў таму закрылі ГСаўскую краму. Цяпер рэгулярна прыязджае да нас аўтакрама з мілай абслугай, свежымі і таннейшымі таварамі.

Будучыня ГСу перш за ўсё хвалюе працаўнікоў гэтай установы.

— Цяпер у нас нервовая работа, бо ў любы момант можам страціць працу. Зарабляем менш, чым калісьці. Людзі не хочуць аб гэтым размаўляць, бо баяцца. Старэйшыя працаўнікі гатовы зарабляць менш, каб толькі фірма не абанкруцілася. Маладыя патрабуюць большай зарплаты, хочуць лепей жыць. Першая група хоча працаваць тут да пенсіі, другая — жадае добра зарабіць і разглядаецца за іншай работай.

— Паслуговая майстэрня ГСу толькі называецца паслуговай. Раней працавала тут 13 чалавек, цяпер — толькі двое, кіраўнік і рабочы. І хаця брама шырока адчынена, кліентаў як на лякарства.

— Прыватны гандаль пагражае нашай гандлёвай сетцы. Войт дае канцэсіі прыватнікам, а мы трацім кліентаў. Вінаваты і сам ГС, бо не шукае таннейшых аптовых складоў, а і нашы магазіны сваім выглядам адпалохваюць людзей. Прыватныя крамы лепш прэзентуюцца, тавар у іх больш разнародны, а калі кліент не мае грошай, то і на крэдыт дадуць...

— Раней у ГСе было пад дваццаць магазінаў, засталося — некалькі. У самой Орлі тры магазіны аб'ядналі ў адзін (тавары хатняга ўжытку, металічныя вырабы і адзенне). Працавалі ў іх дзесяць прадаўшчыц, а цяпер хопіць дзвюх. Людзі рэдка сюды заходзяць, бо тавару мала, няма выбару.

— У ГСаўскім рэстаране (глядзі: здымак) ціха. Ад некалькіх гадоў не варыць ужо абедаў, не чуваць таксама застольных спеваў. Кліенты аддаюць перавагу прыватным сталовым.

— Магло б быць лепш у нашым ГСе, калі б тры гады таму памянялі старшыню. Тады прыватны гандаль не быў яшчэ такі канкурэнтаздольны і можна было павесці фірму ў іншым напрамку і затрымаць пры сабе кліентаў.



**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Святочная бяссэнсіца

Вандруючы ў перадсвяточныя дні па кірмашах і прыватных крамах за пакупкамі неаднойчы прыкмячаем, што цэны на тавары ў той час намнога больш „падскокваюць".

Глянем для прыкладу на мясныя вырабы. У гэтай дзялянцы гандлю найбольшая бяссэнсіца. У кожнай краме іншыя цэны. У Чаромсе найтанней можна купіць вэнджаную грудзінку ці кумпяк з цеханавецкага аўтамабіля, які два разы на тыдзень наведвае пасёлак. Таму мае тут цеханавецкі крамар сваіх сталых кліентаў. У мясцовых мясных секцыях найдаражэй, мабыць, у фірменнай краме кляшчэлеўскага каўбаснага завода. Ну і тут знаходзяцца пастаянныя наведвальнікі, якія хваляць вытворчасць гэтага прадпрыемства.

Чаромхаўскія пакупнікі звыкліся ўжо з цэнамі, якія прапануюць ім гандляры.

Калі я займаў чаргу перад каталіцкім Вялікаднем да цеханавецкага „аўтобуса", мне і ў галаве не мільгнула, што прыйдзецца плаціць намнога больш.

Пасля пакупкі пачаў я ў хаце разглядаць рахунак. З яго зразумеў, што і цеханавецкі прадпрымальнік перад святам павысіў цэны ад 50 гр. да 1 зл. на кожны від сваіх вырабаў.

У мясцовых крамах гандляры таксама „паднеслі" цэны. Быццам нямнога, аднак пенсіянера і беспрацоўнага бюджэт надта гэта адчувае.

Чаму ж так дзеецца, даражэнькія? Селяніну за вепручка мяснікі перад святам не прыкінулі ні адной залатоўкі. Аднак, як бачым, у сваіх крамах цэны павышаюць.

Крамары лупяць грошы і пасмейваюцца, што „святочны бізнес" так добра круціцца. Ім галава не баліць, што чалавеку не хапае грошай заплаціць рахункі за хату, электраэнергію ці газ, што перад святам ЗУС не выплаціў пенсіі пенсіянерам і што старэчы на кашанку не хопіць, не кажучы пра каўбасу.

А мы гаворым, што палякі народ хрысціянскі, рэлігійны. Няўжо ж рэлігія навучае нас паблажлівасці, бяздушнасці і крывадушнасці? Дзе наша зычлівасць да бліжняга?

Сыты галоднаму не спачувае, — гаворыць прымаўка.

Так і з нашымі гандлярамі справа маецца. Калі павышаюць цэны ў сваіх крамах перад нейкім святам, гавораць аб рыначнай эканоміцы і „свабодных" цэнах. У сапраўднасці дэманструюць сваю сілу перад кліентам.

На маю думку, такія паводзіны гандляроў і крамароў заслугоўваюць на асуджэнне ў цывілізаваным народзе. Толькі хто гэта зробіць?

Няўжо ж беднага ці бездапаможнага чалавека нехта зараз паслухае?

**Уладзімір Сідарук**

# У чаканні вясны

У народзе кажуць: чужым розумам жыві, аднак аб сваім не забывай. Неаднойчы чужыя рады і прагнозы да дабра не давялі. Яны не аднаму нягоду і бяду ў хату прывялі. На сабе я пераканаўся, хаця ўжо ў восенькі час жыцця ўступіў. А калі пра восень закрануў, дазвольце мне і аб зіме сказаць. Вядома ўсім, што зіме без восені не бываць. Таму знаходзіцца мноства знахароў, каб аб ёй сваю прагностыку сказаць. Адзін Гасподзь ведае, якую нам зіму прыйдзецца зімаваць. Вось у хвіліну гэту набеглі мне ўспаміны вешчуноў і аднаго знаёмага лесніка з Белавежы. Казалі яны, што зіма будзе кароткая і лагодная, бо звярына худая, мядзведзь не спіць, на святую Пакрову вецер з поўдня павяваў. Прыйшла зіма, мароз залютаваў і ўсе прагнозы праваліліся. Праўда, зіма кароткая была, снегу малавата, аднак галалёдзіца — ні праехаць, ні прайсці. Думаю, зіма каротая і лагодная, вугля купляць не буду. Знаёмы мой з паўмяшком вугалю перазімаваў. Калі мароз прыпячэ, ускідае мяшок на плячо і некалькі разоў кругом хаты прабяжыць — разжарыцца як улетку, аж пот па спіне цячэ. Сам я гэтага спосабу не прымяняў, суседзяў пасароміўся. Толькі калі б зіма даўжэйшаю была, тугавата мне было б і тады напэўна ў адрас вешчуноў слаўцо круглае палячела б. Дзякуй Богу, зіма кароткай выпала ў гэтым годзе. У думках вясну сустракаў, Усявышняму маліўся, каб здароўе мне паслаў. Усяляк бывала, раз горш, раз лепш, абы дзянёк пражыць. І за гэта трэба адвячоркам падзяку Госпаду занесці. А вясна за шторaз бліжэй. Сам сябе гэтым пацяшаю і праз шыбіну ваконца шторaз часцей у напрамку сонейка пагладаю. Дзякуй Богу, на месцы час не стаіць. Як аб тым успомніш, аж хочацца жыць. Прырода далей свае правы трымае. Не ўбачыш калі, як сапраўды вясна завітае. Усё кругом ажыве, прачнецца ад зімовага сну, рэхам вясновым зноў жыццё загукае. Дожджык абмые астаткі зімы, маланкай абудзіцца засмучаны лес. Гром загрыміць і прабудзіць зямлю. Зялёнаю коўдраю пакрыюцца сенажаці, лугі. Вясновае сонейка свой праменьчык жыццёвы раслінкам пашле. Сяляне, як працавітыя пчолкі ў поле пойдуць, як штогод ад грукату трактароў палі загудуць. Працавіты мужык стараецца вясны не праспаць, працуе, каб было што ўвосень у свірны збіраць. Ружова-белым колерам закрасуюць сады, каб даць нам увосень багатыя плады. Птушкі да нас вернуцца назад, каб зноў сваю веснавую серэнаду пачаць. О, вясна! Прыгажуня ты наша, не адзін з усмешкай зімой успамінае цябе. Калі ўжо надыходзіш, так скажа: „Дзякуй Богу, дачакалі вясны". Бывай зіма. Мінулага кепскім словам не ўспамінае ніхто. Крышачку не збыліся прагнозы зімазнаўцаў, аднак усё ім выбачым. Аднаго толькі просім: дай нам, Божа, у здароўі пажыць і ўбачыць яшчэ, што нам наступны дзянёк прынясе.

**Грыша Мароз**

# Страшны выпадак

**Часта ў мас-медыях чуем пра катастрофы ў шахтах, на моры, у паветры. Спачуваем людзям з гэтак званай небяспечнай прафесіяй: палітыянтам, пілотам, матросам, шахцёрам і г.д. А тым часам адно з першых месцаў паводле колькасці няшчаслівых выпадкаў займае... сельская гаспадарка!**

Пацвярджае гэта хаця б жахлівае здарэнне з аднае вёскі Нарваўскае гміны. Сын-гаспадар разам з бацькам-пенсіянерам выкідалі гной. Калі прычэпа была поўная, сын схацеў праверыць механізм раскідвальніка. Сеў у трактар і запусціў матор. Неўзабаве пачуў ззаду крык. Бацька трапіў у аграмадныя вілы раскідвальніка. Скрунула яго і ўцягнула аж на верх прычэпы. Не можна было ўжо нічога зрабіць. **(ак)**

# Яшчэ ёсць надзея

**Беларусь ад двух з паловаю гадоў з'яўляецца пастаянным героем еўрапейскіх сродкаў масавай інфармацыі. Прозвішча прэзідэнта краіны не знікае з першых старонак так беларускай, як і замежнай прэсы.**

Апазіцыя з Беларускага народнага фронту звярнула нядаўна ўвагу, што Лукашэнка з'яўляецца не толькі прэзідэнтам, але таксама галоўнакамандуючым шматтысячнай і нядрэнна ўзброенай арміяй. З увагі на яго непрадказальнасць, усходняй Еўропе можа — паводле БНФ — паграджаць нейкі нечаканы канфлікт. Таму каб высветліць, як склалася сітуацыя ў галіне бяспекі ў гэтым кутку кантыненту, прапануецца склікаць міжнародную медыцынскую камісію для абмеркавання стану здароўя прэзідэнта.

Нягледзячы на тое, ці калі-небудзь такі кансіліум будзе скліканы, сам факт гутаркі на гэту тэму з'яўляецца страшэнна кампраметуючым для грамадства, якое прывяло Лукашэнку на вярхі ўлады. Хаця цэнтры кіравання Беларусі не знаходзяцца ў Менску, тым не менш ніякі народ не дазволіў бы на такое пастаяннае падвярганне яго прыніжэнню. Рэферэндумы — адзін у справе ліквідацыі ўсіх прыкмет нацыянальнай тоеснасці, другі — для ўстанаўлення дыктатуры дэмакратычным шляхам — парушылі б кожнае грамадства. У Беларусі ўсё прайшло зусім спакойна. Не абазначае гэта, што ўсе беларусы да свае будучыні ставяцца абыякава, што за абяцаны кусок каўбасы адкінулі свабоду і перасталі зважаць на сваю нацыянальную адметнасць. У размове з нашымі суродзічамі з Рэспублікі Беларусь адчуваецца страшэнная стомленасць і пачуццё безнадзейнасці. Такі стан душы грамадства — мэта кожнай акупацыйнай улады, кожнага дыктатара. Дэмакратыя патрабуе грамадзян, якія прымаюць рашэнні і самі нясуць за іх адказнасць. Таталітарная сістэма ўзнікае тады, калі людзі хочуць толькі спакойна жыць, мараць, каб было чым накарміць дзяцей і каб ніхто ноччу злавесна не пастукаў у дзверы. Існаванне чалавека абмяжоўваецца тады да фізіялагічнай сферы, дзе дамінуе страх, пачуццё адзіноцтва і цалкавітай залежнасці ад вонкавага свету. Прыгнятаючая большасць прымае тады правілы паводзін, накінутыя ім таталітарнай уладай. У сталінскім Савецкім Саюзе, ці кімірсенаўскай Паўночнай Карэі дасканалую таталітарную сістэму стварылі не выдатныя інтэлектуалы, але даволі прымітыўныя асобені. Патрапілі яны грамадскую эліту пераўтварыць у дасканалых нявольнікаў, а геніяльных пісьменнікаў, філосафаў, мастакоў, людзей навукі прывесці ў стан амаль рэлігійнага экстазу ў іх творчых выяўленнях адлюстравання дыктатара.

У Беларусі цераз некалькі апошніх гадоў інтэлектуальная эліта мела магчымасць пабачыць вынікі неабмежаванага еўрапейскага вальнадумства. Камуністычны савецкі дагматызм раптам паказаўся ім як гвалт нанесены не столькі інтэлекту, колькі чалавечай годнасці. Спробы лукашэнкаўцаў вярнуць папярэдні стан зняволення розуму, выклікаюць у адных раздражнёнасць, у другіх — бяссільную злосць, у іншых — жаль па чарговых гадах страчанага часу. З палёгкай і надзеяй вяртанне таталітарызму ўспрымаецца „народнымі масамі". Але пакуль толькі вертыкальшчыкі адміністрацыйнымі метадамі прапагандуюць культ свайго „воджя", пакуль паэты не пішуць вершаў у гонар „усенароднаабранага", а скульптары не выконваюць яго каменных бюстаў, пакуль не загіне вольная думка — для Беларусі ўсё яшчэ ёсць надзея.

**Яўген Мірановіч**

# З нагоды 25 Сакавіка

Калі мы рыхтаваліся да святкавання, не ведалі яшчэ, што будзем прымаць у сябе такіх паважаных гасцей, як урадавая літоўская дэлегацыя, якую састаўлялі: Рэмігіус Матуозас, Северынас Вайцекус і Бажэна Замбкевіч з Дэпартамента рэгіянальных пытанняў і нацыянальных меншасцей, а таксама Рынгаўдас Гелезевідзіус — дарадчык па справах унутранай палітыкі Прэзідэнта Літвы і якую супраўаджаў Ежы Завіша з Міністэрства культуры і мастацтва РП. На жаль, не прыйшлі прадстаўнікі гарадскіх ні дыпламатычных улад. Хацелася нам нешта новае прыдумаць, але ж ад гісторыі не ўцячэш, тым больш, што ў беларускім грамадстве яна ў татальным заняпадзе. Народ слухае гісторыю ў выданні Аляксандра Лукашэнкі, у якой БНР прыпісваецца адмоўнае месца, маўляў, БНР — гэта фашысты, нацыяналісты, шавіністы і адзін чорт ведае хто яшчэ. А гэтым, што сёння памятаюць пра беларускую дзяржаўнасць у форме БНР, прабуецца яе выбіваць з галоваў дубінкамі ці страхам. Таму трэба было прыпомніць, якія былі канцэпцыі беларускай дзяржавы ў 1918 г. (д-р Лена Глагоўская).

Як выглядае сёння змаганне за Беларусь, расказаў прыехаўшы да нас з Менска Вацлаў Арэшка — намеснік выканаўчага дырэктара Фонду „Наша Ніва". Вялікім пераломам у беларускай свядомасці былі падзеі ў Беларусі вясной 1996 г. Якраз угодкі БНР сталіся нагодай для прэзентацыі двух цікавых выданняў: „Менская вясна 1996" і зборніка вершаў Славаміра Адамовіча „Каханне пад акупацыяй".

На заканчэнне, як спалучэнне гісторыі з сучаснасцю, прагучалі гістарычныя і сучасныя беларускія патрыятычныя песні ў выкананні Ірэны Гаданчук, Ані Петкун і Ірынея Лаўрашука. На скрыпцы падыгрываў Марк Лаўрашук.

Радавала прысутнасць айцоў Аркадзя Зеляпухі з нашай праваслаўнай царквы ў Гданьску і Рамана Дэйны — францысканца і пажаданні „Bożego Błogosławieństwa" для беларускай незалежнасці. Прысутнічалі таксама ўкраінцы, немцы і палякі. Усё гэта адбывалася ў Дварку Серакоўскіх у Сопаце, дзякуючы прыхільнасці яго „гаспадыні" Ізы Якуль.

Нейкі паляк, прысутны на нашых угодках, пакінуў вельмі прыхільны запіс у нашай „Хроніцы": „Dzisiejszy wieczór bardzo miły memu sercu był — po raz pierwszy na uroczystości białoruskiej byłem".

У Дварок Серакоўскіх прыйшло больш за 40 асоб. Добра, што Ежы Завіша пабачыў нашу вечарыну, бо гэта яўны доказ на тое, што ў такім Гданьску існуем і нешта робім на грамадскіх асновах. Літоўцы мелі магчымасць таксама пазнаёміцца з праблемамі нацыянальных меншасцей у Трыгарадзе, асабліва беларусаў і немцаў.

**Л. Г.**

# Тавараабмен між Польшчай і Беларуссю

Удзел Беларусі ў агульным гандлёвым балансе Польшчы ў далейшым застаецца нязначным. У імпарце нічога не змянілася і паказчык запыніўся на 0,8%, затое ў экспарце павысіўся з 0,8% на 1,1%. Дадатнае сальда балансу склала 7,1 млн. зл., паколькі імпарт зачыніўся сумай 577,5 млн. зл., а экспарт дасягнуў 584,6 млн. зл. Для параўнання прывяду лічбы, якія ілюструюць удзел суседніх краін у польскім замежным гандлі: Нямеччына: імпарт — 26,6% і экспарт — 38,3%; Расія: адпаведна — 6,7% і 5,6%; Чэхія: 3,1% і 3%; Украіна: 1% і 3,2%; Славакія: 1,3% і 1,2%; Літва: 0,2% і 0,8%.

У структуры імпарту беларускіх тавараў дамінуюць: паліва і змазачныя матэрыялы — 30,4%, хімікаліі — 28,9%, прамысловыя вырабы — 13%, машыны, прылады і транспартнае абсталяванне — 7,7%. Сярод польскіх тавараў экспартаваных у Беларусь пераважаюць харчы і жыўнасць — 22,6%, прамысловыя вырабы — 19,8%, машыны, прылады і транспартнае абсталяванне — 18,6%. З гэтага відаць, што на польскі рынак трапляюць пераважна паліва і хімікаліі, а на беларускі рынак польскія харчпрадукты. У апошніх гадах у галіне тавараабмену наглядаецца застой, а яго паказчык усталяваўся на ўзроўні 1%.

У 1995 годзе Польшчу наведала 3 275 400 грамадзян Беларусі, што склала 4% ад агульнай колькасці замежных турыстаў (немцы — 57,4%). Пакінулі яны ў нас 236,8 млн. дол. ЗША (3,6% прыбытку ад замежнага турызму). Гэты даход зменшыўся ў параўнанні з ранейшым перыядам (у 1993 годзе: 296,8 млн. дол. ЗША — 4,8%), а прычынай гэтаму з'яўляецца скарачэнне часу пабыўкі беларускіх турыстаў у Польшчы. Адным словам, расце колькасць аднадзённых паездак у прыгранічныя гарады за пакупкамі. У 1995 годзе ў Беларусь з'ездзіла 1,2 млн. польскіх турыстаў (3,3% усіх выязджаючых). Год раней Беларусь наведала толькі 700 тысяч палякаў (2%).

**Славамір Кулік**

# Дзеля аздараўлення

Медыі ў вялікай ступені фармуюць грамадскую ўяву пра свет ды ўсё, што ў ім дзеецца. Прыклад гэтага мы мелі ў мінулым годзе, у якім прыпала 10 гадавіна катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Прэса ўсяго свету нагадала тады, што існуе на свеце дзяржава Беларусь, а яе грамадзяне мусяць жыць у тых умовах, якія скласіся пасля трагічнага ў выніках узрыву ў Чарнобылі. Прыклад фармавання грамадскай думкі (знакаміты ў сваёй адмоўнасці) мы мелі таксама і ў 1986 годзе, калі адбылося само здарэнне. Прэса ўсяго сацыялістычнага лагера змоўчала тады або паменшыла значэнне катастрофы на АЭС, прымушаючы такім чынам грамадства Беларусі жыць у несвядомасці сапраўднага свайго лёсу.

Гэтыя два крайнія прыклады ролі прэсы — ва ўмовах кантраляванага і адкрытага грамадства — заіснавалі ў адным і тым жа свеце. Жыццё ж у гэтым свеце, аб'ектыўна глянуўшы, якім было, такім і засталося. Праігнараванне трагедыі яго не ўпрыгожыла, як і ўсведамленне грамадству ўсіх наступстваў катастрофы — напэўна не зрабіла гэтага жыцця горшым. Розніца аднак тут аж надта відавочная. А зводзіцца яна да простай маральнасці — да ўсведамлення кожнаму з нас сапраўднага нашага лёсу.

Варта тут нагадаць яшчэ адну акалічнасць — **грамадства Беларусі жыве ва ўмовах радыяцыйнага забруджання не толькі ў моманты круглых гадавін катастрофы, але кожны дзень.** Пра гадавіны мы ведаем цяпер амаль усё, бо ў такія моманты ўсчынаецца вялікі інфармацыйны шум. Пра звычайны дзень — вельмі мала. Тэма дапамогі дзеткам з радыяцыйнай зоны ў Беларусі не з'яўляецца ўжо на першых старонках газет — не абазначае аднак гэта, што дапамога такая ўвогуле не праводзіцца. Былі і ёсць людзі, якія пастаянна і бескарысліва прысвячаюць свой час аздараўленню дзетак з Беларусі. Адным з іх з'яўляецца старшыня Свабоднага прафсаюза Беларусі ў Магілёўскай вобласці **Сяргей Абадоўскі**, які ўжо некалькі гадоў у паразуменні з кіраўніцтвам Сельскагаспадарчай школы ў Дайлідах прывозіць у Беласток групу дзетак на лячэбны адпачынак. Адпачынак гэты каштуе вельмі шмат, бо, паводле спецыялістаў з Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, павінен ён працягвацца прынамсі тры тыдні — самы кароткі перыяд, калі з'яўляюцца эфекты: арганізм ачышчаецца ад радыяцыі. Гатоўнасць матэрыяльна дапамагчы дзеткам заявілі ўжо прэзідэнт Беластока, беластоцкі ваявода і куратар асветы. Спадар С. Абадоўскі спадзяецца таксама на дапамогу з боку няўрадавых устаноў ды прыватных асоб. Ахвяраванні можна пасылаць на рахунак:

**Zespół Szkół Rolniczych**
**w Białymstoku**
**PBI S.A. Białystok**
**Nr 19801023-2176-3000**
**„Kolonie dzieci z Białorusi"**

У гэтым годзе група 40 дзетак з трыма апекунамі прыедзе ў Беласток у ліпені, а яе лячэбны адпачынак тут будзе працягвацца 21 дзень.

**Аляксандр Максімюк**

# Нашы студэнты ў Мінску

У днях 21—28 сакавіка 1997 г. група студэнтаў беларусістыкі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку пабывала ў Мінску. Мэтай паездкі было знаямленне з беларускай культурай, традыцыяй і перш за ўсё мовай.

У першы дзень побыту мы схадзілі на Троіцкае Прадмесце. Экскурсавод расказаў нам пра гісторыю Мінска, а пачаў з „Дзядзі Леніна". Хаця не абмінуў царквы і касцёла, але і так скончыў на помніку афганцам. Дарэчы, з гэтага можна зрабіць выснову, што сталіца Беларусі — малады горад, а помнікі мінуўшчыны, апрача гэтых з часоў сацыялізму, нікому непатрэбныя.

Маім сябрам вельмі спадабаўся Цэнтр Францыска Скарыны. Над уваходам красуюцца там Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг, якіх нідзе ў Беларусі не пабачыш. Тут мы маглі пагутарыць з дырэктарам Адамам Мальдзісам і даведацца чым займаецца Цэнтр і ці ён прыдасца нам як беларусаведам. Аднаго толькі я не мог зразумець: чаму на выстаўцы аб беларусах, якія жывуць па-за межамі Рэспублікі, няма аніводнай заметкі пра беларусаў Беласточчыны?

Наведалі мы і тэатр „Вольная сцэна", паглядзелі спектакль „Барбара Радзівіл". Усе мы ім былі захоплены. Ставіўся ён на беларускай мове, а перад кожным актам гудзела мелодыя песні „Беларусачка". На канец спектакля на сцэну ўбег малады чалавек са сцяжком на грудзях і ўручыў кветкі актрысе, якая іграла ролю Барбары. Наведалі мы таксама тэатр „Жывое слова", які часта гасцюе на Беласточчыне і пабачылі іхнюю рэпетыцыю. Пад канец нашай паездкі мы папалі на канцэрт беларускай рок-групы „Крама". Перад „Крамай" выступілі два маладыя гурты. Нам спадабаўся гурт, у якім ігралі толькі дзяўчаты. А Ігар Варашкевіч са сваімі хлопцамі, вядома, як заўсёды паказаўся класна.

Бачылі мы таксама невялікую дэманстрацыю, каля Філармоніі, арганізаваную студэнтамі супраць указа прэзідэнта Лукашэнкі, які кожнага выпускніка застаўляе працаваць там, дзе ён прапісаны.

Усхвалявала нас „прыгода" ў тралейбусе. Калі мы гарталі „Свабоду", напала на нас жанчына сярэдняга ўзросту. Крычала яна, што чытаем нацыяналістычную газету, а калі пачула яшчэ польскі акцэнт, дык сказала, што мы прыехалі сюды наводзіць свае парадкі, рабіць нейкую рэвалюцыю. Пачалася сварка, бо былі і людзі, якія абаранялі нас. Каб пазбегнуць далейшай бессэнсоўнай сваркі, мы выйшлі.

На канец хачу ад імя студэнтаў падзякаваць Інстытуту сучасных ведаў у Мінску і Генеральнаму консулу Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхасю Слямнёву за дапамогу ў сарганізаванні паездкі.

**Юрка Шульскі**



*У клубе „Акварыум" падчас канцэрта „Крамы".*

# Маладая Беларусь

Моладзь — гэта будучыня кожнай нацыі. Калі моладзь ведае сваю нацыянальную прыналежнасць, будучыня народа пэўная і стабільная. Таму ўжо нашым дзецям трэба гаварыць хто яны і вучыць роднай мове. Калі яны выхаваны ў такім духу, ім ніколі справы радзімы не будуць абыякавыя. Трэба вучыць маладых пашаны для культуры і традыцыі. У будучыні гэта ўсё яны перакажуць сваім дзецям і так нацыя будзе існаваць.

Неабходна пры гэтым памятаць, што да нічога нельга прымушаць. Не можна змусіць другога чалавека, каб адчуваў сябе кімсьці іншым. А маладыя людзі асабліва супраціўляюцца, калі хтосьці гаворыць што ім рабіць і як думаць. Малады чалавек павінен сам даведацца, хто ён і адкуль яго карані.

Мне, як усё ж яшчэ вучаніцы беларускага ліцэя, заўсёды здавалася, што большая частка моладзі абыякава адносіцца да школы, да яе беларускасці і да таго, што яна сімвалізуе. Не гавару, што ўсе, але напэўна многія не хацелі прызнацца да сваёй нацыянальнасці. Аднак заўсёды былі і надалей ёсць сярод нас такія людзі, якім іх беларускасць паказваецца вельмі важнай справай і яны не саромяцца прызнацца да гэтага. У апошні час я пераканалася, што іх з году ў год штораз больш. Што прывяло мяне да такіх высноў? А хаця б тое, што прынамсі ў нашай школе расце зацікаўленне Алімпіядай беларускай мовы, беларускімі мерапрыемствамі і агульна пошукамі сваёй тоеснасці. Найлепшы прыклад гэтаму — турнір.

7 сакавіка 1997 года ў Бельскім доме культуры адбыўся чарговы турнір беларускай моладзі, які з'явіўся нагодай для сустрэчы маладых беларусаў. Апошняе такое свята праходзіла тры гады таму назад у Гайнаўцы. Ад гэтага часу ўсе забыліся аб турніры і толькі ў гэтым годзе Звяз беларускай моладзі рашыў аднавіць мерапрыемства. Думаю, што гэта сапраўды нялёгкая задача і таму усіхом з ЗБМу належацца словы вялікай падзякі.

Калі я прыйшла ў дом культуры, у калідоры было ўжо многа маладых людзей. Перад усім былі гэта ліцэісты з Гайнаўкі, якія прывезлі вялікую экіпу. Сярод натоўпу моладзі адзначаліся людзі, адзетыя ў народныя беларускія кашулі. Бяльшчан было яшчэ мала. Я падумала сабе, што пэўна ніхто не прыйдзе. Аднак калі пачаўся турнір і гледачы падзяліліся, бельская група выразна была найбольшай. Прыйшло многа вучняў усіх класаў. Нямала было і матурыстаў, якія перад абедам пісалі пробны экзамен па польскай мове. Бяльшчане прыйшлі пазней, быццам бы ведалі, што мерапрыемства не пачнецца тэрмінова.

У турніры прымалі ўдзел тры каманды: беларускія ліцэі з Бельска і Гайнаўкі і Беларускае аб'яднанне студэнтаў.

Першая канкурэнцыя была даволі цікавая — прадстаўленне камандаў. Ліцэісты пастараліся і прыгатавалі гэта ў вельмі цікавай форме, студэнты ўлажылі крыху менш працы. Кожная наступная канкурэнцыя выклікала вялікі водгук публікі. Калі спявалі „Дзявочыя ноткі" з Бельска, працаўнікі не вытрымалі і пачалі гуляць. Трэба было таксама выпіць куфель малака. Студэнты сказалі, што малака піць не будуць і захацелі піва. Гэта ім не памагло і яны прайгралі з прадстаўнікамі ліцэяў, якія не адказаліся ад малака. У колца і крыжык выйграў дырэктар Гайнаўскага ліцэя, таму што, як сказаў адзін з членаў камісіі, у яго ёсць намеснік, з якім ён можа трэніравацца. Пані дырэктар з Бельска, на жаль, намесніка не мае.

Самым цікавым конкурсам быў паказ моды, дзе ўсе тры каманды прэзентавалі ўсё найлепшае. Гэтага нельга апісаць, гэта трэба было ўбачыць.

Праграма турніру была даволі цікавая і багатая, а найважнейшае тое, што гульні прынеслі вялікія эмоцыі ўдзельнікам і гледачам. Усе выдатна падрыхтаваліся да канкурэнцый і таму ўзровень удзельнікаў быў высокі і выраўнаны. Да канца немагчыма было сказаць хто быў лепшы. Перамагла Гайнаўка, але мне здаецца, што не ў выніках тут справа.

Турнір стаў нагодай для сустрэчы маладых беларусаў. Яны маглі пазнаёміцца і супольна паслухаць музыкі на канцэрце пасля турніру. Выступілі чатыры рок-гурты: „Вядро", „The Dvery", Р. Ф. „Брага" і „Новае неба". Музыка яднае моладзь і таму пасля турнірных эмоцый ўсе згодна танцавалі або толькі слухалі маладых выканаўцаў.

Малады чалавек, які прымаў удзел у гэтым мерапрыемстве, мог пабачыць хто такі маладыя беларусы, а гэта значыць, што нацыя наша не загіне. У маладосці сіла, а маладая Беларусь — гэта сапраўдная магутнасць. Каб толькі не пагубіць гэтай свядомасці, а Беларусь жыць будзе, калі не на карце, то прынамсі ў сэрцах людзей.

**Катажына Аўсяйчук**

# Праграмы не будзе

Сябра нашай рэдакцыі і пастаянны карэспандэнт Мікалай Лук'янюк параіў нам просты спосаб на павышэнне тыражу „Нівы", а менавіта пачаць друкаваць праграму тэлебачання („Ніва", н-р 10). Прапанову пачалі мы разглядаць вельмі сур'ёзна, хаця не спадзяваліся павышэння ліку падпісчыкаў з гэтай нагоды. Ведаем таксама, што пастаянным аматарам нашай літаратуры пэўна не перашкаджала б месца у тыднёвіку праграму тэлебачання.

Тры гады таму мы друкавалі нават праграму Беларускага тэлебачання. Тады сярод супрацоўнікаў гэтай установы ў Менску было некалькі нашых сяброў. Калі толькі кіраўніцтва БТ зацвердзіла расклад праграмы на наступны тыдзень, праз некалькі мінут мы мелі яе ў Беластоку. Але не заўсёды начальнікі Беларускага тэлебачання працавалі з гадзіннікам у руках і не заўсёды тэхніка нам спрыяла. Часам на пошце ў Беластоку, дзе накіроўваліся факсы на адрас „Нівы", знаходзіліся людзі, якія не ведалі, ці не хацелі ведаць „букваў" і не паведамлялі, што нас чакае карэспандэнцыя з Менска. Калі мы нават званілі на пошту і дапытваліся пра матэрыялы для нас, нам адказвалі што нічога няма, хаця часам такая карэспандэнцыя ляжала ўжо некалькі гадзін. У друкарні, у сваю чаргу, чакалі матэрыялаў, каб запоўніць пустую палоску ў „Ніве". Здаралася аднак, што факса мы так і не дачакаліся. Трэба было тады ў адведзеным тэлевізійнай праграме месцы друкаваць інфармацыю пра зёлкі, кветкі, ці нешта падобнае. Пасля за пастаўку праграм з Менска нам прапанавалася плаціць нейкія страшэнна вялікія сумы, што і прывяло да спынення супрацоўніцтва. Сёння, калі польскае тэлебачанне пастаянна змяшчае інструктаж для садыстаў, нармальным людзям, для раўнавагі, можна было б глядзець лукашэнкаўскае тэлебачанне, адрасаванае выключна мазахістам.

Ведаем, што на Беласточчыне гледачоў Беларускага тэлебачання ёсць няшмат. У параўнанні з некалькімі каналамі польскага тэлебачання толькі невялікі працэнт тутэйшых беларусаў можа глядзець праграмы на беларуска-расейскай трасянцы. Хаця большасць нашых журналістаў зрэдку ўключае тэлевізар, усведамляем, аднак, якой папулярнасцю ў народзе карыстаецца гэты сродак масавай інфармацыі. І таму мы шчыра хацелі б дапамагчы нашым чытачам, друкуючы праграму прынамсі польскага тэлебачання, аднак аказваецца, што наша воля гэта замала. Тэлевізійная праграма цяпер стала нармальным таварам і на дадатак не надта танным. Прапанаваны кошт гэтага матэрыялу прыблізна раўняецца палове месячных ганарараў, якія атрымліваюць нашы журналісты і карэспандэнты. Таму з жалем паведамляем, што ў найбліжэйшай будучыні ў „Ніве" не будзе змяшчацца інфармацыя пра атракцыёны польскага тэлебачання.

**(рэд.)**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Мой горад Бельск

Бельск-Падляшскі — гэта горад невялікі, але вельмі стары. Тут жылі мае бабуля і дзядуля. У гэтай мясцовасці нарадзіліся мае бацькі і я.

Бельск-Падляшскі пастаянна разбудоўваецца. З году ў год прыбывае новых будынкаў. Той, хто не быў у горадзе дваццаць гадоў, напэўна не пазнаў бы ўсіх яго раёнаў. Думаю, што сучасны вакзал выклікаў бы ў гэтага чалавека вялікае ўражанне.

Між іншым змянілася вуліца Гурна, дзе я жыву. Калі мае бабуля і дзядуля пабудавалі тут свой дом, была яна глiністая, ухабістая і кароткая. Паблізу знаходзілася ворная зямля, спакойна шумела збожжа, зеляніліся межы. Бабуля і дзядуля жылі ў горадзе, але як жыхары вёсак цешыліся цішынёй і чыстым паветрам.

Калі я нарадзілася, на вуліцы не было яшчэ асфальту. Аўтамабілі гразлі ў балоце. Памятаю, як мой дзядуля, асабліва ўвосень, раніцай выязджаў без цяжкасці, а пад вечар не мог даехаць да свайго гаража. Жыхары Гурнай памагалі сабе ўзаемна, ставіліся да сябе сардэчна.

Цяпер на вуліцы — асфальт, ва ўсіх дамах — тэлефоны. Аднак нававапасяленцы закрываюцца ў сваіх чатырох вуглах, нікога не вітаюць, нікога не хочуць знаць, іх панадворкаў пільнуюць грозныя, вялікія сабакі.

Цешуся, што мой родны горад разбудоўваецца, але я вельмі хацела б, каб больш было ў ім мілых людзей, з усмешкаю на тварах. Маю маленькі праменьчык надзеі, што мае мары здзейсняцца. Мама хацела б жыць у Беластоку.

**Аня Аўсянюк**
**кл. VI „е" ПШ н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**

Сцэнарый дзіцячага дня нараджэння

## „Веснавыя ключыкі"

***(пачатак у 13-м нумары)***

*Вядучая паказвае слайды (або карцінкі). Калі дзеці не могуць адказваць, пытаецца, хто пойдзе да сваіх бацькоў за падказкай. Сумеснымі намаганнямі ўсе карціны мусяць быць названыя. Для таго, каб зрабіць заданне больш лёгкім, можна выкарыстаць малюнкі звяроў, птушак, кветак і да т.п.*

**Вядучая:** Малайцы! Паглядзіце! — за апошняй названай карцінай мы знайшлі ключык! А наступны ключ Зіма ўкінула ў халодную крыніцу. Яго трэба вылавіць вудачкай.

*Да ключа прымацоўваецца сашчэпка або любая пятля, за якую яго можна падчапіць. Дзеці па чарзе бяруць „вудачку" і прабуюць „вылавіць" ключ. Нарэшце некаму гэта ўдаецца.*

**Вядучая:** Вось малайчына Воўк-Адзінец! Цяпер у нас тры ключы, і мы яшчэ далей пранікаем у царства Зімы, да нашага замкнёнага торціка. Наступны ключ Зіма схавала так, што яго можна ўзяць, толькі сказаўшы чароўныя словы. Зіма запісала іх на ледзяной падземнай гары, але лёд пачаў раставаць, і засталіся толькі першыя радкі замоваў. А можа, вы здолееце адгадаць словы, якія зніклі? Я кажу вам першыя радкі, а вы працягвайце. Таксама дазваляецца браць падказкі ў бацькоў.

„Бегаў Бай па сцяне..."
**Дзеці** *(працягваюць)*:
„У чырвоным каптане...
Баіць ці не?.."

„Горкай, горкай, горачкай..."
(ішоў малы Ягорачка,
Ваўкоў не баяўся,
Страхаў не пужаўся...)

„Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому..."
(Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому...)

„Коцік басаногі..."
(Па сняжку гуляў,
Адмарозіў лапкі
і заплакаў: „Мяў!")

„Ішлі Тадор з Тадораю..."
(Найшлі лапаць з аборою,
Гаворыць Тадор Тадоры:
Табе лапаць, мне абора...)

*Вершы могуць мяняцца. Выбірайце тыя, якія добра ведае ваша дзіця.*

**Вядучая:** Малайцы! Ад вашых замоваў ледзяная гара зусім растала, і нам застаўся яшчэ адзін ключык. Колькі іх цяпер у нас?

**Дзеці:** Чатыры!

**Вядучая:** А колькі нам яшчэ засталося знайсці?

**Дзеці:** Тры!

**Вядучая:** Так! Але Зіма спалохалася, што хутка мы яе адолеем, і пачала нас замыкаць у сваіх падземных пячорах, браць у палон. Зараз мы будзем прабаваць вызваліцца. Хто не баіцца варожага палону?

*Выбіраецца з дзяцей добраахвотнік. На падлогу кладзецца капялюш брылямі ўніз.*

**Вядучая:** Зараз я звяжу шалікам рукі Магутнага Зубра за спіной, і ў такім становішчы ён павінен надзець гэты капялюш сабе на галаву. Надзене — вызваліцца...

*Дзеці па чарзе са звязанымі за спіной рукамі прабуюць апрануць капялюш.*

***(заканчэнне будзе)***

## Незабыўны Шэльмент



Кожны чалавек любіць вяртацца да дарагіх сабе месц, і асабліва тады, калі перажыў там незвычайныя хвіліны.

Нядаўна і я наведала такое месца, урочышча Шэльмент над чароўным аднайменным возерам. У цёплы красавіцкі дзень над Шэльментам лёталі буслы. Пашчасціла пабачыць і крыклівых жураўлёў.

Згадайма, у маі 1995 года на гары Шэльмент, дзеці розных нацыянальнасцей (палякі, літоўцы, расейцы, украінцы, беларусы) будавалі Святыню сваіх мараў. На працягу 11 дзён паўставала гордая, небаклічная пабудова. Разам з дзецьмі працавалі старэйшыя сябры з сейненскага асяродка „Пагранічча". Былі там і нашы сябры з Гарадка: Сільвія Паплаўская, Магда і Гося Госцік, Эля Карпюк, Андрэй Казёл, Лёнік Тарасэвіч.

Зараз намнога горш прэзентуецца святыня. Вецер і дождж дашчэнту знішчылі яе інтэр'ер. Ад размаляваных балясаў асталіся толькі каляровыя плямкі. Захаваліся адно асноўныя элементы канструкцыі і дарога на гару. Ледзь знайшла я беларускую каплічку (на здымку бачыце як яна выглядала ў 1995 г.). Ляжала ўжо без іконак, аброслая зялёным мохам.

У такіх месцах рэзка адчуваем бязлітаснае праміnанне.

Усё ж суцяшала адна думка. Якраз на Шэльменце, на гэтай гордай, недаступнай гары, зрадзілася думка пра каляровыя крыжы, якія ўзнікаюць на Сустрэчах „Зоркі".

**Зорка**



*Сябры з Нарвы.*



*Васьмікласнікі з Дубін.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Лівонская вайна

*Аўтарам комікса з’яўляецца вучань VII класа Пачатковай школы ў Чыжах, які падпісваецца псеўданімам „Янка”.*

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*




У 1576 годзе каралём Польшчы ды адначасна вялікім князем літоўскім стаў мадзярскі князь Стэфан Баторый. У часе каранацыі ён дэклараваў, што адбярэ ад Маскоўшчыны ўсе заваяваныя ёю землі — і вайна пачалася ізноў, толькі шчасце спрыяла Літве. Пасля шэрагу літоўскіх перамогаў, у 1582 годзе Масква стаяла перад загубаю. Іван IV Грозны пачаў шукаць ратунку ў Рыме, просячы папу схіліць Літву да замірэння, даючы згоду на навярненне Маскоўшчыны на каталіцтва. Старанні Рыма давялі да міру. Літве былі вернуты Вялікія Лукі, Невель, Вяліж, Холм ды паўднёвая Лівонія. Што ж датычыць абяцанняў Грознага навярнуць Маскоўшчыну на каталіцтва, дык яны і засталіся абяцаннямі.

## Крыжаванкі № 15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*Крыжаванку даслала Івона Паўлючук, кл. IV ПШ у Храбалах.*

- марозная пара года
- на ёй пішуць вучні
- дрэва з белай карой
- плачуць, калі яе распранаюць

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Swat | Śmiech | Banał / Wieża | | Witka / Klucz | | | | |
| Kmin | | | | | Ara / Czekan | | | |
| | | | | Jar / Język | | | | |
| Jedzenie | | | | Rosa | | | | |
| Chałka | | | | | Prawnik | | | |

<u>Наш слоўнік</u>

**Чакан** — старажытная зброя ў выглядзе доўгага дзяржання з насаджаным на яго завостраным з абуха малатком.

**Адказ на крыжаванку н-р 11: Прадвесне.**

Узнагароды — **духмяныя фламастэры** — выйгралі: **Паўліна Баданічук** з Бельска-Падляшскага, **Каміля Каролька** з Нарвы і **Міраслава Анішчук** з Новага Беразова.

**Каляровыя фарбы** атрымаюць: **Тамаш Гаўрылюк** з Кленік, **Ева Кот** з Дубін і **Магдалена Вашкуць** з Бельска-Падляшскага.

Віншуем! Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі або чакаць іх у сваёй школе.

**Генадзь Бураўкін**

* * *

Я не ганю землі чужыя —
Хай іх сонца не абміне.
Толькі дзе за морам ні жыў я,
Беларусь мая снілася мне.

Так карцела — сляза закіпала, —
Каб да сэрца хаця б здалёк
Прыплывалі жалейка Купалы,
Багдановічаў васілёк...

Гэта ўсё, безумоўна, не нова.
А ці трэба, каб новым было
Поле бацькава, матчына мова
І над хатай буслова жытло?

Хіба душы свае не лечым
Ад бяздомных бядот і згрызот
Самым простым і самым вечным,
Што пранёс праз вякі народ?

І якія б шляхі не сходзіў я,
Кліча полацкая сенажаць...
А калі не спяваць аб Радзіме,
Дык навошта наогул спяваць?

## Як у Гайнаўцы прывіталі вясну

22 сакавіка а дзевятай гадзіне клас VI „ц” Пачатковай школы н-р 6 з выхавацелькай пайшлі ў Гайнаўскі дом культуры. Сабраліся тут школьнікі ад пятага па восьмы клас.

Адбылася падрыхтаваная намі артыстычная частка. Вучні гаварылі анекдоты і гумарыстычныя вершыкі. Цікавасць выклікала група сябровак, якія выступілі пераапранутыя за вясну. Была і пластычная група, якая малявала звяроў.

Арганізатары наладзілі многа конкурсаў, напрыклад, на найцікавейшую рэкламу. Наш клас заваяваў у гэтым спаборніцтве трэцяе месца.

Ніхто не наракаў на недахоп заняткаў. Было весела і цікава. Вучні малодшых класаў тапілі пудзіла зімы і хадзілі на экскурсіі па наваколлі.

**Кася Леанюк**
**кл. VI „ц” ПШ н-р 6 у Гайнаўцы**



Талон „Зоркі” № 15
13.04.1997

# НАШЫ КАРАНІ

## XCIX. З турмы ў рэктары

У цяжкія для Праваслаўнай Царквы часы па волі Божай заўсёды з'яўляліся надзвычай таленавітыя і ахвярныя людзі, якія станавіліся ў яе абарону. Гэтак жа было і падчас насаджэння уніі на беларускіх і ўкраінскіх землях. Адным з выдатных заступнікаў за справы Праваслаўя быў тады Лявонцій Карповіч. Нарадзіўся ён каля 1580 года ў сям'і праваслаўнага святара на Піншчыне. Вучыўся ў славутай Астрожскай акадэміі на Валыні. Быў надзвычай здольным чалавекам, валодаў некалькімі старажытнымі і сучаснымі мовамі, спасціг шырокія веды па багаслоўю, гісторыі, літаратуры, быў выдатным прапаведнікам, пачуўшыя яго называлі Іаанам Залатавусным.

Праваслаўныя спазналі талент і адданасць Царкве Лявонція Карповіча, калі ён з'явіўся ў Вільні і тут разгарнуў сваю дзейнасць у брацтве пры Свята-Духаўскім манастыры. Тут ён пісаў і выступаў з палымянымі пропаведзямі ў абарону праваслаўнай веры і Царквы, выкладаў у брацкай школе, працаваў у друкарні. У 1609 г. Лявонцій Карповіч як віленскі пасол выступаў у Варшаве на вальным сейме ў абарону Праваслаўя супраць уніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея, які бясправна ператтавараў праваслаўныя цэрквы ва уніяцкія, жорстка праследаваў праваслаўнае духавенства і верных, сілком заганяў усіх на унію.

За надрукаванне палемічнага твора свайго сябра і вучня Мялеція Сматрыцкага „Фрынас" („Плач") Карповіча засудзілі на два гады цяжкага турэмнага зняволення, а ўсе выдадзеныя кнігі спалілі. І гэта невыпадкова ўлады з такой раз'юшанасцю напалі гэты твор і яго выдаўца. У кнізе „Фрынас" аўтар сумаваў над трагічным лёсам беларускага народа, яго веры, мовы і культуры, у сувязі са здрадай арыстакратыяй і значнай часткай царкоўнай іерархіі свае бацькоўскай веры праваслаўнай, роднай мовы і традыцый ды паўсюднай паланізацыяй.

Пасля выхаду з турмы Карповіч быў выбраны архімандрытам Свята-Духаўскага манастыра і рэктарам брацкай школы пры ім. Да апошніх дзён жыцця, а памёр ён вельмі рана, бо на 40-ым годзе жыцця, самаахвярна служыў Царкве і свайму праваслаўнаму люду.

У багатай творчасці Карповіча да нашага часу захаваліся пропаведзі „На Праабражэнне Госпада і Спаса нашага Ісуса Хрыста" і „На Успенне Прачыстай і Благаславеннай нашай Багародзіцы", павучэнне „У нядзелю перад Раждажаствам", „Сказанне аб трыццаці чатырох ерасях" і іншыя. Усе яны пранікнуты глыбокім лірызмам. У іх Карповіч заклікае слухачоў і чытачоў да маральнага самадасканалення паводле вучэння Праваслаўнай Царквы, абараняе Праваслаўе менавіта з пазіцый хрысціянскай навукі. Адначасна абвінавачвае ворагаў Праваслаўя ў матэрыяльнай карыслівасці, сцвярджае, што яны на зямлі багацця, славы ды раскошаў шукаюць коштам дабра айчыны і свае душы. Падкрэслівае таксама, што яны ўласнай працай не хочуць дасканаліць сябе і сваё жыццё на зямлі, а як вядома, без працы над сабою чалавек правальваецца ў пякельную бездань.

Дзейнасць і творчасць Лявонція Карповіча мела вялікі ўплыў на маладое пакаленне змагароў за бацькоўскую веру, адным з яго вучняў быў выдатны пісьменнік Мялецій Сматрыцкі.

**Мікола Гайдук**

# „Lux Aeterna"* Яўгена Паплаўскага

Тое, што Гданьск блізкі Беларусі, вядома ад вякоў. Зараз вялікай неспадзяванкай была прэм'ера (сусветная) сімфоніі Яўгена Паплаўскага „Lux Aeterna", прысвечанай 1000-годдзю Гданьска, якое адзначаецца сёлета. 21 сакавіка ў Балтыцкай філармоніі ў Гданьску можна было паслухаць цудоўны канцэрт. Гэта рэдка здараецца, каб твор сучаснага беларускага кампазітара выконваўся польскімі артыстамі.

Асновай сімфоніі „Lux Aeterna" на тэнар сола, мешаны хор і аркестр стаў верш сучаснага беларускага паэта Лявона Эміліта, напісаны ў 1989 г.:

*Светласць гэта, што ў душы маёй*
*Пазбягае яснасці любой.*
*Я не вечны, дык чаму ж, скажы,*
*Берагу я ў сваёй душы!*
*Можа светласць гэта нездарма*
*Свеціць мной, калі мяне і няма.*

Сімфонія адклікаецца сваім духам да сярэдневякоўя, багатая рэлігійна-філасофскім зместам. У першай, інструментальнай, частцы кампазіцыі гучыць рэха спевакоў-пілігрымаў і рытмы рыцарскіх танцаў.

Другая частка твора, вакальна-інструментальная — гэта індывідуальны погляд кампазітара ў даўнюю мінуўшчыну.

Спалучэнне сярэдневяковых матываў з сучаснымі вельмі цікава гучала ў выкананні Пётра Кусевіча (тэнар) — прафесара Музычнай акадэміі ў Гданьску, аркестра Балтыцкай філармоніі, акадэмічнага хору Музычнй акадэміі. Дырыжыраваў — Зыгмунт Рыхэрт.

Кампазітар Яўген Паплаўскі, прысутны на прэм'еры, ужо не першы раз пабываў у Гданьску. У мінулым годзе быў таксама са сваім „Паланезам Агінскага" а раней з „Classic Avangarde". Усё гэта за справай дырэктара Філармоніі Рамана Пэруцкага, які бачыць музычнае багацце не толькі на захадзе, але і на ўсходзе: „Próbuję to jakoś łączyć. W końcu tu jest wielu ludzi wywodzących się z Białorusi, którzy darzą wielkim sentymenten tamtą muzykę".

З кампазітарам Яўгенам Паплаўскім я пазнаёмілася ў 1993 г. Нарадзіўся ён у Поразаве на Гродзеншчыне ў 1959 г. Вучыўся ў Беларускай музычнай акадэміі. Вядомы перш за ўсё вяртаннем (у рэпертуар) з забыцця даўніх музычных твораў, якія ляжаць запыленыя ў архіўных ці бібліятэчных фондах.

Пры гэтым звязаны ён сямейнымі вузамі з беларускім ксяндзом міжваеннага перыяду Станіславам Глякоўскім — братам Яўгенавай бабулі. Дзякуючы ёй менавіта захаваўся цікавы альбомчык са здымкамі дзеячаў беларускага руху ў міжваеннай Польшчы.

Тым больш цікава было сустрэцца з кампазітарам у Гданьску і паслухаць яго сімфоніі.

**Лена Глагоўская**

* Партытура выдадзена: Wydawnictwo Muzyczne „Brevis", Poznań 1997.

# Бельск — сталіца „Усходняй Сцяны"?

У пятніцу 28 сакавіка пасол Уніі працы Артур Смулка і старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа сустрэліся ў Бельску-Падляшскім з гарадской управай. Бурмістр Андрэй Сцепанюк прадставіў найбольш набалелыя праблемы горада — незакончаныя вялікія пабудовы цеплацэнтралі і водазабора ды справу падзення швейнага завода „Каро". Пасол Смулка абяцаў падтрымку намаганням бельскіх уладаў у справе заканчэння інвестыцый і выратавання прадпрыемства „Каро".

У размове ўдзельнічаў таксама раённы камендант паліцыі Міхал Карпюк, з якім абмяркоўвалася праблема аховы парадку ў горадзе і наваколлі.

Пошукам шляхоў выхаду з цяжкай эканамічнай сітуацыі, у якой апынулася ўсходняя Беласточчына, мае служыць канферэнцыя „Усходняя сцяна. Перспектывы развіцця ці адмірання". Канферэнцыю плануецца правесці пад канец мая г.г. Прадбачваецца ўдзел прадстаўнікоў дзяржаўных (самага высокага ўзроўню) і гмінных уладаў, вучоных, прадпрымальнікаў і розных фондаў. Уступна зацікаўленне ў правядзенні канферэнцыі выказаў адзін з нямецкіх фондаў.

**А. Л.**

Адгалоскі

# Цяжка ўспамінаць трагедыю

Спадар Міхал Голуб у сваім каштоўным допісе п.з. „Яшчэ пра трагедыю Елянкі" ў 11-м нумары „Нівы" дапоўніў мой ранейшы артыкул п.з. „Дэгенерат" ад 1-га снежня мінулага года. Мой пераказ сапраўды не быў згодны з фактамі; усвядоміў я гэта, калі дэталёва ўдумаўся. Да напісанага раней варта яшчэ дадаць, што Елянцы не шанцуе з вогненнай стыхіяй. У сямідзесятыя гады вёска зноў некалькі разоў гарэла. Пажары ўспыхвалі ноччу і людзі зноў падазравалі, што нехта падпальвае. А нейкіх 7—8 гадоў таму між Елянкай і Кляшчэлямі згарэла летам каля ста гектараў маладога лесу; нехта наўмысна або здуру падпаліў. З агнём няма жартаў і жаль, што ёсць людзі без сэрца і без розуму, ад якіх другім бяда. Дзякую спадару Міхалу Голубу за выпраўленне і папаўненне майго допісу.

**Мікалай Панфілюк**

# *Пра кліента і пана*

[1 ☞ працяг]

*рэй „дзень добры", то не заўсёды гэтае самае пачуеш у адказ. А калі ўжо, дык як вялікую ласку. Ні разу не здарылася мне, каб прадавец першы павітаўся. І толькі час-часом сустрэне мяне ласка, калі прадавец падыдзе, каб нешта параіць, папытацца, чаго шукаю, што мне трэба. Такую краму, вядома, запамятаю, адчую да яе пэўную прыхільнасць і, напэўна, у будучым больш ахвотна наведаю менавіта яе. Але чаму маю адчуваць удзячнасць за штось, што павінна быць нормай?*

*Паважаны спадар Сідарук, прыемна было прачытаць пра новыя, вартыя пахвалы звычаі чаромхаўскіх прадаўцоў. Ці, аднак, не таму вы іх заўважылі, што здарыліся яны на фоне іншых, менш станоўчых паводзін.*

*Каб пабачыць, колькі яшчэ нашым купцам не дастае да чэмпіёнаў у сваёй прафесіі, усё яшчэ трэба ездзіць у Парыж, Лондан або Нью-Йорк.*

**Мікола Ваўранюк**

# Падзяка душпастыру

Не так даўно настаяцелем Пасынкаўскага прыхода стаў айцец Яўгеній Сушч. Гэта вельмі прыемны і ветлівы чалавек. Як жа цудоўна ўдзельнічаць у яго багаслужбах! Якія ж цудоўныя пропаведзі гаворыць ён на нашай простай беларускай мове! Яны кранаюць душу і застаюцца глыбока ў сэрцы. Ён вучыць нас як паводзіць сябе ва ўсіх царкоўных сітуацыях і штораз больш людзей наведвае царкву.

Наш настаяцель арганізуе паломніцтвы ў дарагія кожнаму праваслаўнаму мясціны. Людзей да паломніцтваў ужо не трэба намаўляць. Цяпер бывае больш ахвотных, чым месц. Такім чынам некаторыя нашы прыхаджане восенню пабывалі ў Жыровічах, а ў снежні — на Украіне, дзе наведалі манастыры ў Гарадку, Крамянцы, Скіце і ў самім Пачаеве. Пакланяліся мы святым мошчам, удзельнічалі ў багаслужбах, захапляліся прыгажосцю храмаў, а ўражанні ад паездкі застануцца ў памяці кожнага з нас да канца жыцця.

З манашкамі манастыра ў Гарадку наладзілі мы блізкія кантакты, проста пасябравалі. Каб дапамагчы ў іх міласэрнай дзейнасці (яны апякуюцца сіротамі), мы гасцявалі іх у сябе на Калядзы.

Нядаўна мы пабывалі ў Супрасльскім манастыры, каб пабачыць гэтую славутую абіцель, памаліцца ў ёй і пазнаёміцца з яе гісторыяй. Ахвотных з'ездзіць туды было столькі, што хаця паломніцтва прыйшлося арганізаваць тройчы (па серадах), то і так усе ахвотныя не забраліся.

Апошнім часам паломнічалі мы ў Брэст, у родную Беларусь. Маліліся мы ў Свята-Мікалаеўскім саборы, наведалі ўсе цэрквы ў горадзе і наваколлі, былі на месцы смяротнага пакарання святога мучаніка Афанасія Брэсцкага, дзе ў яго памяць ствараецца манастыр. Асабліва кранула за душу Брэсцкая крэпасць і разбураная царква ў ёй, якая зараз адбудоўваецца, помнікі загінуўшым салдатам, вечны агонь і змена ганаровай варты пры ім.

У мяне склалася такая думка, што трэба арганізаваць больш такіх паездак у Беларусь. Тады нашы беларусы лепш пазнаёміліся б з нашай культурай, сваімі каранямі і, мабыць, у меншай ступені перахрышчваліся б на ўкраінцаў.

Ад імя паломнікаў дзякую нашаму брэсцкаму праваднiку — спадарыні Ірыне, якая з захапленнем расказвала аб мясцовых святынях. Сардэчна дзякуем Паўлу Лемешу з Бельска-Падляшскага, які супольна з нашым настаяцелем арганізуе нам паездкі. Яны абодва з'яўляюцца душою паломніцтваў, а іхныя спевы і расказы проста заваражваюць слухачоў. У іх асабліва прыгожыя галасы і калі яны спяваюць, чалавеку здаецца, што ён ужо знаходзіцца ў Раі. Дзякуем таксама шафёру аўтобуса — спадару Валянціну з Кляшчэляў і нашай матушцы, пагранічнікам і мытнікам за спагаду для паломнікаў.

Чытачоў у сваю чаргу хачу запрасіць на наша прыхадское свята — Яна, якое адзначаем 7 ліпеня. Тады наша царква заззяе ўсёй сваёй прыгажосцю, бо да гэтага часу мяркуем завяршыць маляванне храма звонку і ўнутры. Адначасна пачаў яшчэ папярэдні настаяцель айцец Аляксандр Сурэль, якому таксама выказваем словы сардэчнай падзякі за ягоную працу.

**Марыя Бесяда**

# Міхалоўскія дылемы

Перад маёй паездкай у Міхалова Алег Латышонак заўважыў: „У гэтым Міхалове няма ўжо ні беларусаў, ні палякаў! Засталіся адны пенсіянеры".

Багуслаў Асташэўскі, старшыня рады гміны ў Міхалове, таксама сумна сцвярджае: на адзін шлюб у Міхалоўскай гміне прыпадае аж пятнаццаць пахаванняў! Дзяцей, сказаў, амаль ужо няма.

Аднак жа будова новай падставовай школы была прыярытэтнай справай для тутэйшых улад, дзяцей і настаўнікаў на працягу многіх гадоў. І вось 14 лістапада мінулага года новы будынак школы быў афіцыйна перададзены ў карыстанне. Пяцьдзесят гадоў не было такой школы ў Міхалове! Раней падставоўка змяшчалася ў будынку ліцэя.

А цяпер... У дваццаці класах дзеці ўжо вучацца. З хвілінай заканчэння сегмента „С" прыбудуць яшчэ чатыры класы, бібліятэка і чытальня. Ёсць кухня, сталоўка. Пачынаецца будова гімнастычнай залы велічынёю 42 на 20 метраў (без заплечча). Як толькі падсохне зямля, моладзь зможа праводзіць трэніроўкі на новым школьным стадыёне. Уся міхалоўская моладзь!

Але што здарылася ў Міхалове, што замест таго, каб радавацца з прычыны адкрыцця новай школы, людзі да сённяшняга дня крыва спаглядаюць адзін на другога, між каталікамі і праваслаўнымі паявіўся канфлікт — асабліва ў асяроддзі настаўнікаў і бацькоў?!

У першым сцэнарыі ўрачыстага адкрыцця школы была запланавана „msza polowa", якую меў правіць каталіцкі архіепіскап Станіслаў Шымэцкі, а меў бы ў ёй узяць удзел і праваслаўны архіепіскап Сава. Гэтак вырашыла педагагічная рада падставовай школы пасля кансультацый з мясцовымі пробашчамі і згадзілася на гэта Рада гміны.

Паколькі ў праваслаўных няма палявой багаслужбы, архіепіскап Сава запрапанаваў, каб набажэнствы адбыліся ў касцёле і царкве, а пасля гэтага адбылася б кароткая экуменічная багаслужба і пасвячэнне школы. Ваяводская ўправа і Беластоцкая куратория падтрымалі такую прапанову.

У сувязі з гэтым архіепіскап Шымэцкі ў Міхалова не прыехаў. Архіепіскап Сава прыбыў у царкву, а пасля перад школай адбылося экуменічнае набажэнства з удзелам ксяндзоў. Архіепіскап Сава прывёз дзецям ікону, кніжкі, прыехаў таксама царкоўны хор, адным словам, з гэтага боку ўсё адбылося надта ўрачыста.

Ну, а цяпер вось у гэтым Міхалове брат на брата глядзець не можа. На гэты раз абразілася каталіцкая частка насельніцтва. Пра ўсё гэта спакойна расказваюць мне старшыня Рады гміны Багуслаў Асташэўскі і настаўнік-пенсіянер Лешак Нос (абодва каталікі).

Змянілася ў Міхалоўскім ГОКу. Ад 1 лютага ёсць тут новы дырэктар — Марк Кузьма, які дагэтуль быў толькі трэнерам па футболу. І цяпер прадаўжае займацца з моладдзю, але вось газету рабіць яму цяжкавата („Эха Міхалова" мела быць неад'емнай часткай абавязкаў дырэктара ГОКа, але краем вуха я чула развадванні ў ГОКу, што прыдаўся б галоўны рэдактар).

А кажуць, што Мікалай Грэсь някепска рэдагаваў „Эха Міхалова": заглядаў у кожную дзірку, не шчадзіў улад, публікаваў крытычныя лісты ад насельніцтва. Адным словам, рабіў патрэбную справу. Пару разоў крытыкнуў і войта Уладзіміра Кананчука, ну, і ўлады вырашылі, што годзе рабіць „пад публіку"! М. Грэся знялі з пасады дырэктара ГОКа, а гэтым самым і адабралі ў яго функцыю рэдактара газеты.

Ці будзе надалей „Эха Міхалова" адной з найлепшых мясцовых газет на Беласточчыне, ды хто будзе яе рэдагаваць — пераканаемся неўзабаве.



*Конкурсная выстава прац народных умельцаў у Міхалоўскім ГОКу. Падрыхтавана ў сувязі з конкурсам „У пошуках легенд".*

Насупраць ГОКа стаяў вялікі таварны дом. Людзі маюць прэтэнзіі да рады гміны, што гэтая крама цяпер не функцыянуе. Зачынена ад дзевяноста трэцяга года. А людзі — як людзі. Мелі гэту краму раней і далей хочуць мець. Іх не цікавіць, што магазін пераняў сіндык — кіраўнік працэдуры банкруцтва і толькі з ім можна гаварыць. Ужо крама не ёсць уласнасцю гміны, а заданне сіндыка — як мага лепш яе прадаць. Праўда, за два з паловай старых мільярдаў гміна магла б краму купіць, але якраз на гэту мэту яна не мае ў даны момант грошай. Магла б пераняць яе толькі бясплатна.

Грошы цяпер патрэбны гміне на важную інвестыцыю — водапровод у Тапаляны. Вырашылі, што за адным махам ваду атрымаюць дзве вёскі, паколькі водапровод пойдзе з Міхалова ў Тапаляны праз вёску Масціска. Найпазней да вясны будучага года вада палілецца з крана ў гэтых дзвюх вёсках. Кошт інвестыцыі складзе два мільярды старых злотых.

І ёсць яшчэ некаторыя радасныя справы для міхалаўчан. Вось у пачатку сакавіка адбылося ў Міхалове ўрачыстае падсумаванне конкурсу на ўсё ваяводства „У пошуках легенд", а выйшла ж усё адсюль, з Міхалоўскага ГОКа, бо ініцыятарам і арганізатарам яго ўжо другі год падрад з'яўляецца інструктар Рышард Варабей.

На першым прысутнічаў сам віцэмаршалак Сейма Аляксандр Малахоўскі, ды і сёлета гасцей не бракавала, а нават былі і з-за мяжы.

Ёсць і іншыя мерапрыемствы, гмінныя ўрачыстасці і фэстыны (у мінулым годзе на фэстыне прысутнічаў нават прэм'ер-міністр В. Цімашэвіч).

— Ці ў вас яшчэ тут людзі памятаюць, што яны беларусы? — не магу я паўстрымацца ад клапатлівага пытання.

— Частка памятае! — упэўнена сцвярджае д-р Лешак Нос.

Якая гэта частка, былы настаўнік аднак не ўдакладніў.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Лавіце яго!

**Мушу прызнацца, што кішэннікі не абакралі мяне яшчэ ні разу.**

Можа, таму, што нічога асаблівага я не нашу, а, па-другое, мяне асцярожнасці і празорлівасці навучыла жыццё (праўда, раз паласнулі мне лязом па торбе, але хутка я гэта заўважыў, і не ўдалося зладзеям нічога выцягнуць). Бо найчасцей той, каго абкрадаюць,

**сам дае нагоду**

злодзею, вядома, зусім не думаючы. Дама ў залатых пярсцёнках сядае ў аўтобус з расшпіленай пукатай торбай, запакаванай бабскай драбязой і пакупкамі. Старэча шукае ў партфелі білет, паказваючы пасажырам усю сваю пенсію. Паненкі з рукзакамі за спінамі балбочуць і хіхікаюць паміж сабою, а тыя іхнія пакункі хоць рэж, — не заўважаць. Адну маю знаёмую абкрадалі падрад чатыры дні, і кожны раз адбіралі ў яе па 5—10 злотаў (раз торбу парэзалі, другі раз засунулі ў яе руку, калі вісела пад пахай, трэці — на грудзях, чацвёрты — ззаду). Вядома, у гадзіны пік. „Магла б Гандзя лепш меркаваць, ці той пан мае добрыя намеры, — смяяўся мой знаёмы з гісторыі як у вядомым анекдоце. Маглі б, дурні, здагадацца, што гэтая дама ў даваенным футры і капялюшыку носіць з сабою 5 злотаў! Ну, грош невялікі, але колькі мітрэнгі зладзеям; хоць гэта суцяшае маю старую сяброўку".

Найчасцей абкрадзены спахапляецца, што не мае свае маёмасці, калі ўжо выйдзе з аўтобуса ці крамы. А нават калі злодзея злавіць за руку? Усё ж вельмі

**цяжка даказаць**

што ён... злодзей. Найчасцей працуюць яны ўдваіх або ўдвое, і першы перадае грошы супольніку. Але з твару, калі яго ўдасца завесці ў паліцыю, ён там можа быць ужо вядомы.

Ехаў я пару тыдняў таму аўтобусам н-р 6 па Беластоку. Якраз у дзень выплаты пенсіяў. Удалося мне ўціснуцца цераз заднія дзверы, і ледзь мяне не прыдушылі да бар'ера. Уцягнуў я жывот, набраў дыху ў грудзі (і выпусціць яго нават цяжка было) ды ўвапхнуў сваё цела ў куточак ля акна. Не было як нават шпільку ўціснуць, і шмат пасажыраў асталося на прыпынку. Але быў адзін чалавек, які прапіхаўся ўперад. Звярнуў я на гэтага невысокага бландзіна ўвагу з-за вельмі яркай зялёнай курткі. За ім следам сунуўся ягамосць у зялёнай скураной куртцы ў стылі адзення амерыканскіх лётчыкаў. Але што мне ўзірацца, калі самому вочы на лоб вылазяць ад сціску!..

Транспарантная куртка апынулася ўжо недалёка шафёра. І адтуль мы ўсе пачулі

**адчайны жаночы крык:**

— Чалавеча! Як табе не сорамна совать руку ў чужую сумку?! Лёгкай нажывы шукаеш?! Мне пенсіі не хапае на месяц, здароўе мне работа з'ела, каб гэты ... у адну хвіліну мой хлеб хацеў забраць!!!

— Ja nic, kobito, twojego nie mam, od... się ode mnie, szmaciaro!

Пасажыры заварушыліся — шмат хто хацеў выходзіць у цэнтры горада. „Вадзіцель, вазіце яго ў паліцыю!" — закрычаў хтосьці спераду. Шафёр так і зрабіў. Праехаў пару прыпынкаў, спрабаваў павярнуць перад Ваяводскай камендатурай, што ў час такога дарожнага руху было амаль цудам. Дабраліся мы туды хвілін праз сорак. Вядома, не ўсе былі рады. А злосць заlівала ўсіх.

— Пані, бі яго, пані, бі парасонам! Лупі, не шкадуй! — энергічная бабулька ў цэнтры салона ледзь набірала паветра ў абураныя грудзі.

— Што за народ, што за моладзь цяпер парабілася! — галасіў дыскантам мой сусед у бабровай шапцы.

— І так яму нічога не зробяць. Грошы ўжо кампаньён забраў. Дзе тут той, той другі гад?! — крычала маладая жанчына, з віду студэнтка.

— Panie kierowco, daj pan spokój, ja tu muszę wysiąść! Już od pół godziny muszę mieć odebrane z przedszkola dziecko! — плакала маладая мама.

Паліцыянты вывелі з аўтобуса хлопца ў ярка-зялёнай куртцы і жанчыну, якая яго злавіла. Пасажыры выбеглі на прыпынкі. Вадзіцель падкаціў аўтобус пад галоўны ўваход у камендатуру — мусіў мець на паперцы для свайго кіраўніцтва, адкуль у яго ўзялося такое спазненне — разлічваюць яго ж з кожнае хвіліны.

— Напэўна, сярод нас ёсць яго „кумпэль", — заўважыў я, стоячы з некалькімі нядаўна „палоннымі" на прыпынку (трэба было мне ехаць у другі бок, бо праехаў пару прыпынкаў задалёка). — Злавіць бы нам яго! А тут, што павялі, нічога ж не дакажуць, хіба што ён ім добра вядомы, ёсць у картатэцы... Мне той у пілоцкай куртцы не падабаўся...

Раптам я адчуў боль у кумпяку. Гэта той, толькі што згаданы мною, той самы, у цёмна-зялёнай куртцы, так мне дагадзіў чаравікам. На твар ужо паспеў нацягнуць шапку-„камінярку". Значыць, някепскі з мяне быў бы сышчык, калі б сілы і адвагі больш...

— Zamknij się, stary pryku, bo jak jeszcze ci dołożę, to ci ślepia na wierzch powyłażą! Nic w życiu więcej nie zobaczysz! — завяршаў на мяне злодзей і спакойна пайшоў па вуліцы Сянкевіча.

**Вандал Арлянскі**

# Не думаў, што так выйдзе

Міша быў прыгожым хлопцам, усе дзяўчаты млелі за ім. Пачаў ён хадзіць з Еляй. Дзяўчына зацяжарыла. Вырашылі жаніцца. Вызначылі дзень, калі скажуць бацькам пра вяселле.

Два дні перад вызначанымі заручынамі Міша паехаў да сябра ў суседнюю парафію. Там убачыў сяброўку яго сястры. Агнешка спадабалася яму. Адвёў яе дадому. Калі іх вусны сустрэліся, тады Міша ўсвядоміўся, што без Агнешкі не ўяўляе свайго жыцця.

На другі дзень зноў паехаў наведаць Агнешку.

Да Ёлі больш не пайшоў. Ёля маўчала. Не сказала нават бацькам, што зацяжарыла. Употайкі плакала.

Праз месяц Міша рашыў, што ажэніцца з Агнешкай. Вяселле згулялі слаўнае. Міша быў на сёмым небе.

У Ёлі рос жывот. Маці заўважыла гэта і распытала пра ўсё. Бацька Ёлі пабег да Мішы. Была вялікая авантура.

— Што ж ты нарабіў?! — галасілі бацькі Мішы. — Скрыўдзіў дзяўчыну, нажыў ворагаў і асірацiў дзіця.

Уся вёска смяялася з Мішы і Ёлі, не давалі ім прайсці. Міша рашыў выехаць з жонкай у горад. Бацькі Ёлі купілі ў другім горадзе дом, каб іх дачка магла спакойна жыць. Сем'і раз'ехаліся. Праз два гады Агнешка нарадзіла другое дзіця і рашыла, што больш не будзе спаць з мужам.

— Ты эгаістычны самец, — сказала Мішы, — цябе толькі секс цікавіць. Ніколі не паможаш у дамашніх занятках.

— Мяне бабскія занятккі не цікавяць, — адказаў Міша.

З тае пары ў сям'і былі адны толькі спрэчкі. Міша часта хадзіў у піўнушку і на дыскатэкі. Агнешка вярнулася да сваіх бацькоў.

Прыйшлося Мішы плаціць аліменты на чатыры асобы: траіх дзяцей і беспрацоўную жонку.

— Што ж ты нарабіў! — дакаралі яго бацькі. — Навошта даў развод? Трэба было пагадзіцца з жонкай. Калі і што памог бы, калі карона не зляцела б табе з галавы. Ці ж не мог пасля вяртання з працы выйсці з дзяцьмі на шпацыр? Пабачыш, як будзе добра, калі мы паўміраем. Цяпер усе грошы з гаспадаркі аддаем табе, бо ты ў нас адзін. Ты ж працуеш адно толькі каб заплаціць аліменты. Калі развёўся з Агнешкай, дык ідзі да Ёлі, яна жыве толькі з сынам і бацькамі...

— Чаго мне туды ісці! Я з Ёляю даўно кончыў.

Міша думаў, што бацькі прынамсі з сорак гадоў будуць яму памагаць, а ён будзе гуляць ды яшчэ і ажэніцца з нейкай прыгажуняй.

На дыскатэцы сустрэў Вераніку. Спадабалася яму і ён спадабаўся ёй. Часта сустракаліся. Дзяўчына нічога не ведала пра яго мінулае. Пасля чатырох месяцаў знаёмства Вераніка зацяжарыла. Міша прывёз новую нарачоную паказаць сваім бацькам.

— Мусіць, сынок, у цябе розуму зусім няма, — сказаў бацька, пачуўшы аб цяжарнасці дзяўчыны. — Ужо ёсць трое дзяцей, развод за табою... Яшчэ табе мала?!

— Што?! — крыкнула дзяўчына. — Я сустракалася з кавалерам, а не з разводнікам і бацькам траіх дзяцей? Ты мяне падвёў! Ты гаварыў, што я твае першае і адзінае каханне!

Міша не змог пераканаць Вераніку, каб жыць разам. Не хацела яна мужа-ілгуна.

Толькі тады Міша адумаўся, што прайграў сваё жыццё. Верыў свайму прыгожаму твару і думаў, што гэтай прыгажосці хопіць на ўсё жыццё. А тут дудкі!

Ездзіў перапрашаць былую жонку. Нічога не выйшла.

— Не хачу такога самалюба, — сказала яму. — Я з нікім не сустракалася, а ты прыстроіў дзяўчыне жывот. Ашукаў ты мяне і перад шлюбам. Як так жыць?!

Ёлі таксама не быў патрэбны здраднік.

Мішаву маці схапіў прыступ інсульту. Паралізавала левы бок. Не меў ужо Міша часу на забавы. У вольныя ад працы хвіліны ездзіў да бацькі памагаць на гаспадарцы.

Вераніка нарадзіла сына.

— Ну і майстар ты! — смяяліся сябры. — Адны сыны. Цікава, што будзе, калі вырастуць і ўчатырох прыйдуць адлупцаваць цябе.

— Змарнаваў ты сабе жыццё, — гаварыла маці. — Можа праз цябе і да мяне прычапілася хвароба.

— Не думаў я, што так выйдзе, — агледзеўся Міша. — Не ведаю, што будзе, калі заняможа бацька.

**Аўрора**

**Уладзімір Саўчук**

### У халодныя ночы

Вечар косы чорныя часаў
дзяўчатам што прыйшлі
на прадкі
квартэт вясёлы рагулькі спяваў
вясковага брацтва астаткі.
Гэта не хор але разгавор
толькі дзяўчаты ад кудзелі
калі начнуць у суботні вечар
спяваюць да ранняй нядзелі.
І выраслі
кветкі вясёлага брацтва
дарога адкрыла праўды старонку
суседкі пакінулі сваё мастацтва
кінуліся замуж як у нагонку.

### Каханыя дзеткі

*Прысвячаю ўсім праваслаўным дзецям*

Ах дзеткі! — каханыя дзеткі
вы раслі як польныя кветкі
ад ранняга сонца
ад белай сарочкі
даспявалі і жыта і васілёчкі.
Ах дзеткі! — каханыя мае
адцягнулі мяне ад „бярлогі"
ці ў маім — дзякую
не хапіла адвагі
ці можа сэрца пакінуў
ля нашага парога.
Ах дзеткі! — каханыя дзеткі
ўжо працвілі нашы
сінія кветкі
асталіся ў камп'ютэры
запісаныя словы
нашай простай
падляшскай мовы.

* * *

Перапрашаю ўсіх
зблудзіў я сёння словам
і грэх схаваў за пазуху
а... мінаўся здаецца з суседам
— чаму вось сорамна было
прывітаць душу друга
паціснуць яму руку
ніхто — нікога
не цягне за язык
але ўсё-такі
не стала адвагі
і апусціўшы галаву
рашыў пазбыцца гэтага болю
пераржагнаў тры разы
свой паступак
і прасіў Бога:
— Ты не дазволь
каб зноў стаць зверам
у мяне яшчэ не згасла вера!

**Васіль Сакоўскі**

## З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры за 1996 год)***

У час апошняй вайны наша вёска аказалася у франтавой паласе. У ёй мелі свае пазіцыі немцы, і былі гэта добрыя пазіцыі. Савецкія войскі аж некалькі разоў атакавалі яе, пакуль здабылі. Загінула байцоў многа-многа. Спачатку пахавалі іх у брацкіх магілах за вёскай, а потым астанкі іх перавезлі на бельскія вайсковыя могілкі. Колькі загінула немцаў — невядома, бо немцы сваіх забітых адразу забіралі і кудысьці адвозілі.

У часе бою нашы людзі сядзелі ў загадзя падрыхтаваных сховішчах, а потым большасць з іх уцякла з вёскі. Падобна перадалі саветы, каб уцякаць, бо будуць пускаць кацюшы. Кацюш аднак не ўжылі, а немцаў прагналі.

Вёска была моцна зруйнаваная, спаленая. Некалькі нашых аднавяскоўцаў загінула ў час фронту, некалькі ад мін і гранат ужо пасля фронту. Ваенныя падзеі я ўжо помню даволі добра, бо было мне тады годзікаў сем.

Помню як у час бою вакол нашага сховішча рваліся снарады — усё тады гудзела, кіпела, раўло аж зямля дрыжэла. Было вельмі страшна і мы, дзеці, плакалі, а старэйшыя маліліся, просячы Бога ратунку. Вельмі хацелася перажыць гэтае пекла. Калі ў сховішча заглядалі немцы, мужчыны хаваліся за жанчын, а жанчыны падымалі сваіх маленькіх дзетак і хорам паўтаралі: „кіндэр", „кіндэр". Аднойчы хтосьці з сядзеўшых у нашым сховішчы, а сядзела ў ім некалькі сем'яў, выказаў такую думку, што тыя, каму ўдасца перажыць гэтую вайну, то ўжо напэўна будуць жыць між сабой у вялікай згодзе, дружбе і па-Божаму. Усе згадзіліся з гэтым. А як жывуць, самі бачым.

Дасюль ніяк не магу забыць яшчэ аднаго, пачутага ў сховішчы прароцтва. З намі сядзеў адзін цікавы дзядуля і спакойна слухаў ахканняў, плачу ды абяцанак, якімі то будзем добрымі людзьмі, калі ўдасца перажыць гэтую вайну, бо яна напэўна ж за грахі нашы. Потым ён сказаў, што гэта не апошняя і не найстрашнейшая яшчэ вайна. „Я ўжо не дажыву, — сказаў, — а вось такія, — паказаў мяне пальцам, — дажывуць да такой вайны, што людзі будуць у кожную шчыліну хавацца і іх усюды смерць знойдзе..."

Не дай толькі Божа, каб гэтае прароцтва збылося.

***(працяг будзе)***

# Ветэраны ў школе

**Акупацыя і вайна паглынулі мільёны вайсковых і цывільных ахвяр. Ветэранаў — удзельнікаў гэтых жудасных падзей — з году ў год становіцца штораз менш. З нашага боку належыцца ім пашана і памяць. Аднак бывае, што для ўлад безабаронныя ветэраны — малаістотная праблема. У Орлі, напрыклад, не маюць яны свайго памяшкання для вядзення арганізацыйнай дзейнасці.**

26 студзеня 1997 года ў Орлі адбыўся сход Гміннага гуртка Саюза ветэранаў Рэчы Паспалітай і былых палітычных вязняў. Праходзіў ён у будынку старой школы. Дзве малыя залы ледзь памясцілі сорак удзельнікаў сходу. Хаця старшыня ветэранскай арганізацыі перад сходам напаліў печы, аднак з усіх бакоў цягнула холадам, затхласцю і цвіллю, а паабрываныя абоі на сценах наводзілі на стомленых жыццём ветэранаў пахавальны настрой.

На сходзе абмяркоўваліся справаздача з дзейнасці ветэранскага гуртка за мінулы год, план дзейнасці на гэты год і справа памяшкання для арганізацыі.

Старшыня Гміннага гуртка Саюза ветэранаў РП і былых палітвязняў **Лявон Мураўскі** расказаў мне наступнае:

— Гмінны гурток ветэранаў налічвае 135 чалавек, у тым ліку 85 членаў звычайных і 50 падапечных (удоў). Калі ў верасні 1996 года стаў я старшынёю, наша ўправа звярнулася да гмінных улад з просьбай перадаць нам у пастаяннае карыстанне стары школьны будынак. У гміне жыве больш за трыста пенсіянераў, і ў старой школе можна было б разгарнуць з імі грамадскую дзейнасць, памясціць іншыя грамадскія арганізацыі. У лістападзе мінулага года Управа гміны вырашыла адвесці на нашы патрэбы тры залы і сенцы з магымасцю бясплатнага карыстання. Цяпер хочам, па меры нашых магчымасцей, правесці невялічкі рамонт. Палову сабраных складчын адводзім у вавадскае праўленне, але дапамогі адтуль не атрымоўваем. Мы самі адрамантавалі дах гаспадарчага будынка, у якім трымаем апал. Дзеля гэтага выкарысталі чарапіцу са старой амбулаторыі.

Нядаўна паведамілі нас, што ў першай дэкадзе красавіка першы сакратар пасольства Расейскай Федэрацыі былым салдатам Савецкай Арміі будзе ўручаць медалі імя маршала Георгія Жукава. Наш гуртток прапанаваў узнагародзіць 53 ветэранаў.

* * *

Салідны драўляны будынак колішняй школы ад снежня 1992 года стаіць нявыкарыстаны. Апушчаныя, неацепленыя памяшканні драхлеюць, пападаюць у руіну. Будынак аддалены толькі на 50 метраў ад школьнай кацельні. Хапіла б падключыць яго да ацяпляльнай сеткі, каб зноў забурліла ў ім грамадская дзейнасць. Але для гэтага трэба добрай волі гмінных улад.

**Міхал Мінцэвіч**

# Позірк у мінулае

**13 красавіка**

814 г. — памёр хан Крум, балгарскі ўладар. Паходзіў ён з цюркскіх пратабалгараў, якія жылі ў Паноніі, у аварскай дзяржаве. Калі імператар франкаў Карл Вялікі захапіў у 803 г. аварскія землі аж па раку Цісу, пратабалгары тыя перасяліліся на землі між Дунаем і Карпатамі, яднаючыся са сваімі супляменнікамі, якія падпарадкавалі сабе славян, пражываючых на поўдзень ад Дуная. Лічэбнасць пратабалгараў, якія вялі безупынныя войны, падала ў параўнанні з іх суседзямі — славянамі. Нягледзячы на новае папаўненне, працэс асіміляцыі пратабалгараў славянамі не спыніўся і ўжо пры Круме, вым папярэдніку Кардаме паднявольныя дагэтуль славяне прабіваліся ў вярхі ўлады, а пры Круме складалі ўжо большасць двара. Яднанне гэтае, накіраванае супраць супольнага ворага — Візантыі, прывяло да вялікай магутнасці балгарскую дзяржаву. У 809 г. хан Крум адправіўся ў ваенны паход на поўдзень, аднак візантыйскі імператар Нікіфар разбурыў Крумаву сталіцу Пліску. Два гады пазней Нікіфар з вялікай арміяй намерыўся разбіць дзяржаву балгараў. Адкінуў мірныя прапановы хана Крума, аднак 26 ліпеня 811 г. ягонае войска было поўнасцю разбіта балгарамі. Сам Нікіфар загінуў, што ў „варварскіх" плямён падарвала веру ў свяшчэнны характар царскай улады і зламала аўтарытэт Візантыі. Чэрапам Нікіфара хан і яго дваране выпівалі *здравіцу*, адзначаючы сваю перамогу. У наступным годзе балгары дабіліся далейшых перамог, а 22 чэрвеня 813 г. разграмілі візантыйцаў пад Адрыянопалем. Поспех гэты даўся балгарам лёгка таму, што малаазіяцкія войскі імператара Міхаіла I, якія складалі іканаборцы, уцяклі з поля бою і падаліся ў Канстанцінопаль каб выбраць сабе новага цара, якім стаў Леў V. Падышоў пад сцены Канстанцінопаля і хан Крум і зажадаў сабе многа золата, тканей і прыгожых дзяўчат. Не дабіўшыся свайго, хан спустошыў наваколле горада. У наступным годзе Крум зноў намерыўся штурмаваць Канстанцінопаль, аднак раптоўна памёр; ягоная смерць выратавала тады Візантыю. Хан Крум быў не толькі здольным камандзірам, але і арганізатарам дзяржаўнага жыцця. Выдаў ён законы, якія ў месца племяннай крывавай помсты ўводзілі другія віды кампенсацыі: смерць за паклёп, рэквізіцыю маёмасці за хаванне злодзея і крадзенага ды за адмову дапамогі патрабуючым, ломку касцей за пакражу, знішчэнне вінаградніка за п'янства.

1204 г. — рыцары IV крыжовага пахода, які складалі французы і італьянцы, захапілі і разграбілі сталіцу Візантыі Канстанцінопаль і заснавалі там г.зв. Лацінскае царства. Царом новай дзяржавы захопнікі паставілі фландрыйскага князя Балдвіна. Яго ўлада была аднак моцна абмежаваная і французскімі баронамі, і Венецыяй, якая захапіла ў сваё выключнае ўладанне грэчаскія астравы. Панаванне Балдвіна доўжылася круглы год. 14 красавіка 1205 г. быў ён захоплены ў палон балгарскім царом Калаянам і скора памёр у астрозе. Наследнікам яго стаў ягоны брат Генрык, які паспяхова змагаўся і з балгарамі, і з візантыйцамі, якія перанеслі сваю сталіцу ў Нікею. Генрык панаваў да 1216 г., а ягоныя наследнікі былі слабыя і някемлівыя, і іх панаванне абапіралася толькі на венецыянскім флоце і фінансавай падтрымцы французаў. У 1261 г. візантыйскае войска цара Міхаіла VIII Палеалога заняло Канстанцінопаль, а апошні лацінскі ўладар уцёк на венецыянскім караблі. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Вясна ідзе

Пракацілася бура
Над нашай краінай,
Зямля скаланулася,
Вясна йдзе далінай.
Пайшоў дробны дожджык,
Абмыў цвіль зімову,
Спеў птушак у полі
Радуе вясковых.
Як сонейка прыгрэе
У хаце не сядзіцца,
Хочацца выйсці на лаўку,
Вясной любавацца.
Потым пайсці ў поле
Ды зямлю араці
І летняю парою
Ураджаю ждаці.
Няхай будзе радасць,
Таго вам жадаю,
Жывіце шчасліва,
Як Адам з Евай у раю.

**Мікалай Лук'янюк**

## Вясна прыйшла

Прыйшла вясна з цяплом
І сонечным дабром,
І роўна падзяліла
І новы шлях адкрыла:
Наперад ісці смела,
Душа каб не балела,
Марозаў не баяцца,
На праўдзе аснавацца,
На поле выязджаць,
З любоўю працаваць,
Араць, садзіць і сеяць.
Калісьці будзем веяць,
Як вырасце і плён нам дасць,
Работу будзем шанаваць.
Селянін у мяне — герой!
Рашуча ідзе ў бой
Каб заваяваць нам хлеб і да хлеба —
Свяшчэнная патрэба.
Ружжом яго каса і плуг,
А мір — яго галоўны друг.

**Мікалай Панфілюк**

**Хубэрт Даманьскі**

* * *

Крухкае гняздо разбітага люстра
нашых усіх першых.
Я, зблытаны чарговым
абудзіўшымся днём,
Блукаю — знаходзячы,
Маючы гэта — губляю.
Таму я зашыю кішэні
У якія ўкладу рукі,
Каб маглі ўказаць нагам,
Куды адвесці мяне павінны.

* * *

Я раблюся дзіцём тваіх рук,
Апладнены нявіннасцю,
Нявольніцкім каханнем.
Сіло пацалунка зграбае —
— рэшткавы страх.
Усыплёны ў эфір успамінаў,
Мімалётных страт... слёз.

* * *

Калі святое пахаванне веры блізіцца
да канца,
Людзі, якія трыумфуюць чысцінёю —
у белі сваёй пачцівыя,
Ачышчаныя паклонамі, паднашэннем,
старымі вершамі,
Так вяртаючыся у сваім баявым
страі званоў,
З якой жа пагардай глядзяць
На чалавека, што ідзе насупраць —
— у чорным.

*Пераклала з польскай*
*Ялена Расолка*

# Крыжаванка

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ■ | 2 | ■ | 3 | ■ | 4 | | 5 | | 6 | |
| 7 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 8 | | | | | |
| 9 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 10 | 11 | | 12 | | 13 |
| 14 | 15 | | 16 | | 17 | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 18 | | | | | | |
| 19 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 20 | | | | | | |
| 21 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |

**Гарызантальна:** 4. свіная пасуда, 7. горад у Татарстане над Камай, 8. падмена, 9. прыдбаная маёмасць, 10. падбярозавік, бабка, 14. сталіца Вялікабрытаніі, 18. чалавек з няпоўнай працаздольнасцю, 19. фашызм, 20. парадны музычны інструмент, 21. сталіца Кубы.

**Вертыкальна:** 1. англійскі фізік і філосаф (1901-71), 2. горад у Маньчжурыі, 3. жаночы галаўны ўбор, 4. фантастычнае апавяданне для дзяцей, 5. кубінскі танец, 6. аргенцінскі танец, 11. магутны зуб, клык, 12. фігура чалавека, вылепленая са снегу, 13. выспы на поўнач ад Марыянскага архіпелага, 15. горад у Японіі, 16. рака на поўначы Беларусі, правы прыток Дзвіны, 17. старажытнагрэчаскае бажаство ў відзе жанчыны. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 8:**

**Гарызантальна:** палуба, Ранкалі, рызіна, валакно, гарбуз, размах, Вілейка, войска, лансада, параса.

**Вертыкальна:** гравёр, аналіз, царква, пірог, лазер, банту, арляня, Байкал, змагар, апора, месца, хваля.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яраславу Бялькевічу** з Чыжоў і **Міхалу Байко** з Беластока.

**Міні-даведнік**

**Кадзан** — выспы ў Акіяніі.

# ВЕР – НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Да гэтай пары разгадваў ты мае сны, менавіта тыя, якія сніліся асабіста мне. А гэты сон прысніўся маіму сыну. Жыве ён асобна, мае сваю кватэру і сваю сям'ю. Муж мой, а яго бацька, як ты ўжо ведаеш, памёр. І кажа сын, што бацька прыйшоў да яго, а ён здзівіўся ды кажа: „Тата, то ж ты не жывеш!" А ён адказвае: „Жыву, сынок, я знайшоў добрага лекара і ён вярнуў мне здароўе". Бацька быў элегантна апрануты — у прыгожым касцюме, адпрасаваных штанах, ды быў вышэйшага росту (у сапраўднасці ён быў нізкага росту, гарбаценькі, скалечаны хваробай пазваночніка ў дзіцячых гадах).

**Кацярына**

Астроне! Стаю я непадалёк могільніка. Але бачу толькі яго фрагмент, у якім знаходзіцца магіла, абагароджаная жалезным плотам (калісьці, як не ставілі яшчэ помнікаў, магілы так абгароджвалі) і на той магіле многа крыжоў. Крыжы ўсе драўляныя. Людзей не было, толькі я адна стаяла.

**Ксеня**

Кацярына! Сон твайго сына, здаецца мне, прадвяшчае яму нейкія добрыя перамены. Бацька-нябожчык, які ў жыцці быў нізкага росту і гарбаты, у сне быў вышэйшы і надта элегантна апрануты. Ёсць надзея, што станецца нешта добрае.

Ксеня! Твой сон, на жаль, не такі добры. Хаця могільнік мог бы абазначаць для цябе спакой і здароўе, то ўсё ж у тваім сне верх узялі крыжы. А крыжы абазначаюць сум і крыўду. Мяркую, што крыўда не будзе аднак занадта вялікая, бо і крыжы не былі жалезныя, а ўсяго драўляныя.

**Астрон**

# „Белавежа" запрашае

20 красавіка г.г. а 12 гадзіне ў будынку Гуманітарнага факультэта філіяла ВУ у Беластоку (вул. Лінярская, 4) на штомесячным літаратурным семінары „Белавежы" сустрэнемся з Уладзімірам Конанам — філосафам і літаратуразнаўцам з Мінска.



*Наша „ўсходняя сцяна".*
Фота Аляксандра Вярбіцкага




**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Нiўка

## Пародыі

### Мядовы паэт

*Расклявалі сонца пчолы*
*І носяць у вуллі...*
*Больш будзе мёду,*
*Больш будзе паэтаў.*

***Алесь Барскі***

Паэты — гэта Віні Пухі:
Яны таксама любяць мёд.
Найбольш упэўненыя рухі,
Душы ўзвышаны палёт
Залежаць у паэтаў-мотаў
Ад мёду, пчолак у вуллі,
Ад поўных сакавітых сотаў
І ад квітнеючай зямлі.
Калі няма ў цябе натхнення,
Маліся: Божа, дай мне згоду,
Каб з ясных сонечных праменняў
Насілі пчолкі болей мёду.
І я мядку таго наемся,
І напішу пародый кніжку.
А потым разам сабярэмся —
Мядухі вып'ем па кілішку.

**Сяргей Чыгрын**

## Што гэта магло б абазначаць?

*Наш пастаянны чытач і карэспандэнт Славамір Кулік зрабіў гэты здымак у лесе каля Дубіч-Царкоўных, побач шашы Гайнаўка—Кляшчэлі. Паколькі такі састаў на ўлонні натуры сустракаецца нячаста, тады міжволі ўзнікае пытанне, што гэта магло б абазначаць. А можа нашы чытачы ведаюць? Найбольш дасціпныя адказы надрукуем.*






Малюнак А. ШАВЕЛЯ

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

На лавачцы ў парку сядзяць два пажылыя мужчыны:

— Калі гляджу на ўсіх гэтых прыгожых дзяўчат, дык шкадую, што не маю дзесяці гадоў больш.

— Ты хіба хацеў сказаць „дзесяць гадоў менш"?

— Сказаў добра; за дзесяць гадоў будзе мне ўжо ўсё роўна.

* * *

Два сябры гутараць у бары пры піве:

— Твая жонка ў ложку так сама добрая, як і мая, — намагаецца знайсці зачэпку адзін.

— Нічога дзіўнага: старая, добрая школа, — адказвае другі.

— Што маеш на думцы?

— Гэтых фокусаў адну і другую навучыў я асабіста.

* * *

На досвітку муж вяртаецца дадому ў парваным касцюме, з сінякамі на твары і слядамі шмінкі на шыі. У дзвярах вітае яго з ядавітай усмешкай жонка:

— Цікава, чым ты сёння будзеш апраўдвацца... Толькі гавары праўду!

— Не магу з табою дайсці толку; вырашы ўрэшце, ці маю я апраўдвацца, ці сказаць праўду.

* * *

У рэстаране да жанчыны падыходзіць кавалер:

— Ці магу вас прасіць да танца?

— Дзякую, не танцую.

— А ці магу прысесціся да вашага століка?

— Калі так, дык ужо затанцую.

* * *

Выпіўка ў доме студэнта. Застольнікі ўзнімаюць тост:

— За Андрэя! Каб здаў!

Адкрываюцца дзверы і паказваецца Андрэй.

— Ну і што: здаў?

— Усе! Апрача аднае, што мела адбітую шыйку.

* * *

— Пазыч мне сто злотаў.

— Не маю пры сабе столькі.

— А дома?

— Дома? Дзякую, усе здаровыя!

* * *

Берагам мора шпацыруюць бландзінка і брунетка.

— Глянь! Здохлая чайка, — гаворыць брунетка.

Бландзінка ўглядаецца ў неба:

— А дзе яна?

## Вялікае бум

***(байка)***

У сонечны ранак парою вясновай
Усе нашы вучні стаяць перад школай.
Са школы іх выгнаў трывожны званок,
Некаторыя перажываюць вялікі шок.
Раней у класах былі і смех, і шум.
Што ж гэта будзе? — кажуць: бум-бум.
Усе перад школай паслушна чакаюць,
Што выгналі з урокаў не наракаюць.
Паліцыя ў школе даводзіць да дум,
Што можа здарыцца вялікае бум.
Хтось вельмі дасціпны, даволі вясёлы
Прыдумаў вучняў звольніць ад школы.
Дадому пусцілі на дзве гадзінкі.
Гэтым узрадаваліся і хлопцы,
і дзяўчынкі.
Калі мы вярнуліся ў школу назад
Ужо нас не ўцешыў пані дырэктар
загад:
„Урокі будуць і ўсе ад пачатку,
Гэта навучыць вас усіх парадку.
Адхочацца назаўсёды жартаў такіх
Не скусіць дурнотай рабіць другіх".
Хоць карацейшыя крыху ўрокі былі,
Нам ніводнай кантрольнай
не адпусцілі.
Адны жартавалі, смяяліся са здарэння,
Другія пераляканіся, не хацелі
паўтарэння
Такога дзіўнога парадку збурэння.
Хто гэта зрабіў — ніхто не знае.
Можа і ўцеху гэтая асоба мае.
Падумаць бы можна, што гэта
вялікае дзіця,
Якое вось такую забаву сабе
прыдумала.

Гэта байка. А якая навука тут? —
Дурных не сеюць — яны самі
растуць!

**Катажына Аўсяйчук**

*Аўтарка вучыцца ў Беларускім ліцэі ў Бельску-Падляшскім і гэту байку склала пасля таго, як у школе шукалі бомбу.*

## Скажам праўду

Сустрэліся ў пустыні два страусы. Адзін задумаўся:

— Ці ты ведаеш, чаму страусы хаваюць галаву ў пясок?

— Гм, не ведаю, чаму гэта робяць іншыя, але я вяду пошукі нафты.

***

— Мілая, — мармыча муж спрасонку, — выключы святло, тэлевізар, пасцілі ложак і прынясі мне кубачак гарбаты...

— Табе што — ашалеў? Мы ж у кіно!

**(лук)**

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я хачу напісаць табе не толькі дзеля парады, а каб і дзе які мужчына прачытаў ды высновы зрабіў для сябе і сваёй будучыні.

Мы жывем у малым доміку, які пабудавалі калісь бацькі майго мужа. Мы займаем даслоўна мікраскапічны пакойчык і куханьку. У другой палавіне жывуць свёкры. Здавалася б, можна жыць, але кажу табе...

Я ўжо не буду гаварыць пра тое, што мы ў гэтым пакойчыку спім разам з дзецьмі, якіх у нас двое. Праўда, вось-вось ужо будуць яны падглядаць, але пакуль што ім два і тры гады, ну, дык можна яшчэ не перажываць. Аднак жа, як мне вядома, некаторым нават і кот пры палавых зносінах перашкаджае. І гэта мяне ўжо цяпер вельмі непакоіць.

Ёсць і яшчэ адна справа. Сценка паміж нашай кватэрай і кватэрай свёкраў вельмі тонкая, праз яе чуваць амаль кожнае слова, кожны гук. Як можна палюдску пакахацца, калі ты ведаеш, што ў любы момант цябе можа падслухоўваць бацька ці маці мужа?! Як толькі надыходзіць вечар і мы кладземся ў пасцель, я ўся дрыжу, каб усё абышлося ціха. Ды бачу, што і муж у напружанні.

І думаю, што мая найвялікшая праблема вынікае з гэтага. Справа ў тым, што як толькі мы пачынаем кахацца, я ўжо ведаю, што зараз будзе і канец. Усё адбываецца з такой маланкавай хуткасцю, што я часамі нават не паспею агледзецца, як муж ужо „гатовы". А мне што застаецца? Часамі, незадаволеная, адвярнуся ціхенька і сплю. Але часам дык так мяне возьме, што справа канчаецца скандалам. Не вытрымліваю, хаця ведаю, што гэта мне нічога не дасць. Я ўжо і па-добраму прабавала: і тулілася да яго, і ласкала, але ніякія пяшчоты не ўзялі гэты камень.

Калісьці свякруха ў мяне запытала, як гэта яна акрэсліла, проста з мосту: што з намі дзеецца. А што мне было рабіць. Расказала ёй усё, як ёсць. Тлумачу ёй, што ён мне кожны дзень непатрэбны. Няхай было б раз у месяц, але столькі, колькі я хачу! Не магу я гэтыя справы рабіць абы-як. Такая сітуацыя мяне толькі раздражняе.

Ну, і што, думаеш, свякруха мне ў нечым памагла? Што ты, гэта ж яе любімы сынок! Усё, што ён робіць, дык робіць найлепш! Ну, і як я магла ёй даказаць, што не ўсё ён робіць ідэальна?!

Мо каб хоць неяк пагаварыла з ім далікатна, а яна, ведаеш, што зрабіла? Расказала гэта суседцы, а тая другой. Да мяне ўсё гэта дайшло ў вельмі прыкрай форме: маўляў, ненасытная... Мне было вельмі крыўдна, бо я свякруху заўсёды шанавала, а яна, бач, за нішто мяне мае, калі з суседкамі нявестку абгаворвае.

Але гэта справа — дробязь. Я лічу, што найважнейшае, каб мы жылі шчасліва. А дзеля шчасця палавое жыццё чалавека мае немалое значэнне. Праўда, Сэрцайка?

**Данка**

Данка! Наконт сексу ты маеш рацыю: без яго няма ў сям'і псіхічнага здароўя. Той нэндзны секс, які штоноч прапануе табе твой муж, ні ў чым не прыпамінае сапраўдных палавых зносін — такіх, якія яны маюць быць, нягледзячы на тыя ці іншыя „габарыты". Мы ўжо няраз пра гэта пісалі.

Зразумей, даражэнькая, ніякія матчыны размовы не дапамогуць твайму мужу. Яму патрэбны лекар, і толькі размовы з ім могуць нешта даць у гэтым выпадку. Магчыма, што ў яго ўзнік сексуальны неўроз ад вашых цесных жыллёвых умоў. Такое ўжо яно ёсць, наша жыццё: аднаму, як кажаш, і кот перашкаджае, а другі вось яшчэ і сябра запросіць на свой „сеанс", каб паглядзеў, вока нацешыў. Твайму мужу, відаць, патрэбны спакой і свабода.

Думаю, што разам з візітам у лекара варта пачаць старанні пра новую, больш прасторную кватэру.

**Сэрцайка**